PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 6 (2230) Год XLIV Беласток 7 лютага 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Усё-такі пасварыліся

**— Мірановіча я не перапрашаў. Нічога такога не здарылася, каб я адмовіўся ад сваіх слоў, што яму рукі не падам, — кажа Міраслаў Ганушу, прэс-інфарматар Беластоцкага самаўрадавага клуба „Левыя і незалежныя разам”.**

Левыя радныя Беластока ўсё-ткі слова стрымалі. Месяц пасля шумных заяваў выключылі са сваіх радоў намесніка старшыні Гарадской рады Антона Мірановіча. Тое намесніцтва і было прычынай выключэння.

— Калега Мірановіч парушыў дысцыпліну клуба, — сказаў на скліканай 22 студзеня прэс-канферэнцыі яго старшыня Ежы Пул’яновіч. — Раней ужо неаднаразова галасаваў ён інакш, чымсьці астатнія нашы члены. На гэты раз, аднак, пайшоў на свядомую канфрантацыю. Праігнараваў пастанову клуба аб кандыдатуры Пятра Бурака на намесніка старшыні рады. Быў ён выбраны галасамі Выбарчай акцыі „Салідарнасць” і не можа прадстаўляць нашых інтарэсаў.

Пасля ўспомненага галасавання, апазіцыя заяўляла, што выключыць з клуба таксама Славаміра Назарука, які запрапанаваў кандыдатуру Антона Мірановіча.

— Назарук прысутнічаў на пасяджэнні клуба 21 студзеня і апраўдаўся за свой учынак, — сказаў Яраслаў Матвяюк, які ўзначальвае кола праваслаўных радных у рамках клуба. — Тлумачыўся ён палітычнай недасведчанасцю і эмоцыямі. Антон на пасяджэнне не прыйшоў.

— Назарук дзейнічаў з добрай верай, а Мірановіч на свой прыватны ўжытак, — гаварыў на прэс-канферэнцыі сакратар апазіцыйнага клуба Ежы Ямялкоўскі. — Такая між імі розніца. Антон Мірановіч не толькі пастаянна ігнараваў інтарэс клуба, але яшчэ і рабіў розныя круцельствы.

Просьба журналістаў удакладніць круцельствы была задаволеная часткова: самастойнае галасаванне ды інтрыгі, якія б мелі раскалоць праваслаўналевую еднасць.

У той сам дзень, што прэс-канферэнцыя, збіралася таксама кола праваслаўных радных. Аднак пасля яго сітуацыя толькі ўскладнілася. За Антонам Мірановічам не пайшлі з клуба іншыя радныя. Але і яго пакінулі у коле. Цяпер Антон Мірановіч — выкінуты з клуба „Левыя і незалежныя разам” член кола праваслаўных радных, якое з’яўляецца часткай клуба. Вазьмі і разбярыся, выбаршчык!

У радыёперадачы „Пад знакам Пагоні” 24 студзеня Антон Мірановіч сваю цяперашнюю пазіцыю тлумачыў так:

— Надалей буду супрацоўнічаць з праваслаўнымі калегамі, аднак з посткамуністамі — не!

**Мікола Ваўранюк**



*У Макаўцы тры куратнікі перавялі на вытворчасць яек.*

## Дзеля новага смаку

**Са старшынёю Сельскагаспадарчага кааператыва „Rolmak” у Макаўцы Віктарам РЭЕНТАМ гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.**

***— Як гэта сталася, што многія сельскагаспадарчыя калектывы патанулі ў новай эканамічнай абстаноўцы, а вы плаваеце, і то даволі бойка?***

— Канец 80-х і пачатак 90-х гадоў былі вельмі добрымі для нас, таму што нашы напрамкі прадукцыі давалі нам тады вялікія прыходы. Хаця ў канцы 80-х гадоў рэнтабельнасць сельскагаспадарчай прадукцыі панізілася, аднак умовы для вялікатаварных гаспадарак былі ндрэнныя. І наш кааператыў меў неблагія прыбыткі. Некаторыя гэтыя прыбыткі дзялілі, інакш кажучы — праядалі, а мне ўдалося неяк пераканаць людзей, якія таксама хацелі мець грошы на самаходы, каб тых прыбыткаў не выплачваць, а прызначыць іх на інвестыцыі. Збудавалі мяшальню камбікармоў, сіласы, змадэрнізавалі хлеўні. Збудавалі птушкаферму; кан’юнктура на свіныя вырабы мяняецца: калі падае, тады ўзрастае кан’юнктура на яйкі і наадварот, і гэтыя два віды прадукцыі дапаўняліся ў нас.

***— А пакуль наступілі рыначныя перамены, чым вы займаліся?***

— Свінагадоўляй. Мелі ферму на 500 свінаматак, на гэтай ферме адхоўвалі кормнікаў і прадавалі. Не хапала нам збожжа і мы вымушаны былі яго купляць. Але гэтае збожжа пры вельмі вялікай інфляцыі нам вельмі добра аплачвалася; бывала так, што калі мы ім карысталіся, яно ўжо паспявала ўтрая падаражэць. Хто меў тады грошы, мог вельмі добра зарабіць, а мы ў той час грошы мелі. Ці паліва, ці ўгнаенні, ці што, калі спадзяваліся павышэння цэнаў — куплялі.

***— Мелі дзе іх хаваць?***

— Склады былі; была сушыльня. Тыя грошы, якія мы інвеставалі і ў сушыльню, і ў мяшальню, і ў сіласы, вельмі хутка нам вярталіся. Ад 1983 года дзяржава перастала фінансаваць сельскагаспадарчыя калектывы, хаця ПГРы яшчэ ўтрымоўвала, і мы ўжо тады вымушаны былі вучыцца самастойнасці, эканамічнага рахунку. У 1988 годзе пабудавалі птушкаферму: шэсць бройлерных куратнікаў. Пасля, аднак, падзялілі яе: тры куратнікі перавялі на прадукцыю яек, а тры пакінулі для бройлераў. Дзялілі пакрысе, бо цяжка было рызыкаваць на адны толькі яйкі. У 90-м годзе паўстала праблема продажу кормнікаў. Мясакамбінат у Беластоку вельмі марудна прымаў свіней ад сельскагаспадарчых кааператываў. Быў такі трэнд, каб браць мяса ад паасобнікаў, а ад нас не. Нам пагражаў завал: не *сходзілі* выгадаваныя штукі і на іх месца мы не маглі паставіць маладняку. Тады і рашылі будаваць сваю *масарню*. Грошы мелі і ў 1993 годзе ўвялі яе ў ход.

***— А мяснікоў мелі?***

— Так склалася, што ў той час спынілі прадукцыю і гайнаўская, і бельская ПССаўскія *масарні* і мы пераймалі іхных спецыялістаў. На нашу прадукцыю быў збыт, толькі ГСы і ПССы вельмі замаруджвалі з заплатай і мы сталі арганізаваць яшчэ свой гандаль. Цяпер 40% нашых вырабаў прадаем у сваіх крамах...

***— А апошнія 60%?***

— Купляюць індывідуальныя прадпрымальнікі з Бельска, Гайнаўкі, Браньска а таксама аптовыя склады з Беластока, Варшавы, Гданьска і іншых гарадоў.

***— Тых спецыялістаў з Гайнаўкі і Бельска давозілі?***

[працяг ☞ 10]

## Аб фундаментах дэмакратыі

Госці з Беларусі маглі на практыцы паглядзець, як у Польшчы працуюць самаўрады. Наведалі яны Гарадскую ўправу Бельска, з працай якой пазнаёміў іх бурмістр Андрэй Сцепанюк. Прадставіў ён структуру магістрата, расказаў пра такія фундаментальныя справы, як стварэнне гадавога бюджэту горада ці супрацоўніцтва муніцыпальных улад з апазіцыяй.

[абмен вопытам ☞ 2]

## Ці будзе ў бельліцэі гімназія?

На думку дырэктара Яўгена Сачко, карысным будзе стварэнне ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы гімназіі з абавязковым навучаннем беларускай мовы. На працягу шасці гадоў вучні намнога лепш авалодаюць роднай мовай і лепш падрыхтуюцца да экзамену на атэстат сталасці. Настаўнікі іншых прадметаў таксама напэўна змогуць лепш падрыхтаваць вучняў да дзяржаўных ужо матуральных экзаменаў і экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

[рэформа ☞ 3]

## Францішак Аляхновіч

Францішак Аляхновіч напісаў 18 п’ес, пару дзесяткаў апавяданняў, пару соцень артыкулаў пра беларускую культуру. Па палітычных прычынах яго творчасць была малавядомая на Беларусі. Аляхновіча пачалі адкрываць толькі тады, калі ўзнікла незалежная Беларусь, на пачатку дзевяностых гадоў. Але неўзабаве вярнулася саветызацыя і нанава стаў ён ідэйна чужым пісьменнікам.

[угодкі ☞ 4]

## Філіп, наш чалавек

Не аднаго выдаў нашага чалавека Філіп. А як гэта стала, што прыслужнік немцаў і паліцаяў ускочыў у службу народнай уладзе? Быў заўсёды з тымі, у каго было ружжо, хто меў уладу.

[подласць ☞ 9]

## Пад развагу гайнаўскім радным

Раней у Тапіле бурліла жыццё. Працавала крама і курсіраваў аўтобус. У апошніх гадах у вёсцы ўсё перамянілася. Ліквідавалася вясковая крама, перапыніўся аўтамабільны транспарт. Каб купіць бохан хлеба, трэба ехаць у горад. А як туды дабрацца?

[безнадзейнасць ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Заклік да суседзяў

22 студзеня Сейм Рэчы Паспалітай прыняў пераважнай большасцю галасоў „Пасланне да беларускага народа". Супраць галасавала 7 паслоў, у тым ліку члены Беларускага грамадска-культурнага таварыства — Ян Сычэўскі і Сяргей Плева.

Польскі парламент звярнуўся не да ўлад, а да беларускага народа. Успомніў, што Польшчу і Беларусь спалучала супольная шматгадовая гісторыя, супольныя героі і стваральнікі культуры. Таму менавіта польскія дэпутаты заявілі пра сваю пашану для тых беларускіх патрыётаў, якія змагаюцца за дэмакратыю і незалежнасць сваеі краіны. Сейм звярнуў таксама ўвагу на тое, што найбольш выгаднай формай вырашання канфліктаў з'яўляецца дыялог улады і апазіцыі, што гарантавала б Беларусі выхад з міжнароднай ізаляцыі. Існаваннем дэмакратычнай, незалежнай і стабільнай Беларусі зацікаўлены Польшча і Еўропа, — сцвярджаецца ў заканчэнні сеймавага „Пасланія".

Дакумент гэты — як трэба было спадзявацца — выклікаў пратэсты з боку ўлад Рэспублікі Беларусь, якія абвінавацілі Польшчу ва ўмяшанні ў ўнутраныя справы суседняй краіны. Прэзідэнцкія сродкі масавай інфармацыі далі „Пасланню" адпаведную інтэрпрэтацыю, з якой адназначна вынікае, што адзіным гарантам дэмакратыі, незалежнасці і стабільнасці Беларусі з'яўляецца яе прэзідэнт. Пастанова польскага парламента — паводле мінскага радыёвяшчання — гэта спроба парушэння добрасуседскіх адносін паміж Польшчай і Рэспублікай Беларусь.

Зразумела, што „Пасланне" не паўплывае на стаўленне Лукашэнкі да апазіцыі, не паспрыяе вызваленню з турмаў палітычных вязняў, не стрымае імкнення кіруючых Беларуссю палкоўнікаў да далучэння краіны да Расіі. Несумненна, дакумент гэты дае вялікую маральную падтрымку апазіцыі. Важнае таксама і тое, што да ўлад і грамадзян Беларусі пайшоў сігнал, што суседзям неабыякавы лёс іх краіны. Прапануецца беларусам далучэнне да іншага свету, дзе канфлікты вырашаюцца ў выніку дыялогу, а не ізаляцыі ці знявалення тых, якія інакш думаюць. Змест „Пасланія" гэта заклік, ці можа запрашэнне, для беларусаў — улад і грамадства — да клубу дэмакратычных краін. Нішто не паказвае, што беларускія ўлады захочуць пакарыстацца гэтым запрашэннем, а грамадзян і так ніхто не пытае, што яны думаюць.

**(рэд.)**

## Вы ім пасланне, а мы вам заяву!

Пасланне польскага Сейма беларускаму народу ад 22 студзеня выклікала вялікі эмацыянальны ўсплёск у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі і ўрадавых колах Беларусі.

З 23 студзеня Беларускае тэлебачанне амаль цэлымі днямі пачало паказваць бастуючых польскіх сялян, медсясцёр і г.д. Беларусы даведаліся, як палякі пакутуюць у выніку правядзення рэформ, і як крывавжэрнае НАТО хоча загнаць польскі народ у нявольніцтва.

Прэзідэнцкія газеты пачалі друкаваць артыкулы, пасля прачытання якіх складваецца ўражанне, што Еўрасаюз заморыць Польшчу голадам, а яднанне з Расіяй зробіць Беларусь багацейшай за Саудаўскую Аравію. Калі верыць афіцыйнай прапагандзе, беларусы ўжо зараз павінны даслаць палякам у якасці гуманітарнай дапамогі сметанковае масла, цукар, яйкі, мяса і г.д. Калі нават у „багатай" Беларусі перыядычна ўзнікаюць праблемы з харчаваннем і сярэдні заробак знізіўся да 25 долараў у месяц, то што казаць пра „бедную" Польшчу.

Праз дзень пасля паслання Сейма Міністэрства замежных спраў Беларусі зрабіла заяву пратэсту, у якой гаворыцца, што акцыя парламента Польшчы з'яўляецца спробай умяшальніцтва ва ўнутраныя справы Рэспублікі Беларусь і можа ўскладніць адносіны паміж дзвюма краінамі.

**Зміцер Кісель**

## Не хочацца верыць

Польскі Сейм прыняў „Пасланне да беларускага народа", у якім выказаўся за захаванне правоў чалавека, спыненне праследу палітычных дзеячаў і вызваленне з турмы дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання — Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава. Фактамі жорсткага парушэння правоў чалавека ў Беларусі ўсхваляваная грамадская думка амаль ва ўсім свеце. Парламенты розных краін Еўропы ды паасобныя палітычныя і грамадскія дзеячы накіроўваюць пратэсты супраць дыктатарскага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Польскі Сейм у сваю чаргу далучыўся да міжнароднага пратэсту і выказаў сваю падтрымку беларускаму народу ў яго змаганні за дэмакратычную дзяржаву.

Супраць праекта „Пасланія да беларускага народа" галасавала толькі сем паслоў Сейма, сярод якіх былі дзеячы БГКТ — Ян Сычэўскі і Сяргей Плева. Сапраўды не хочацца гэтаму верыць і здаецца яно нейкай недарэчнай з'явай. Мне, простаму жыхару, сорамна за іх перад беларускім электаратам, які выбраў іх сваімі прадстаўнікамі ў вярхоўны орган заканадаўчай улады ў нашай краіне. Галасуючы супраць праекта аказаліся яны паплечнікамі дыктатарскага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, мэтай якога з'яўляецца пазбаўленне суверэннага быту Беларускай Дзяржавы, ліквідацыі беларускай мовы, культуры і гістарычнай спадчыны. Палітыка інтэграцыі з Расіяй — гэта перадача ў каланіяльную залежнасць суверэннай дзяржавы. Ці ж гэтага жадаюць Беларусі беластоцкія парламентарыі?

*(адрас да ведама рэдакцыі)*

## Аб фундаментах дэмакратыі

Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь сарганізаваў у Бельску ад 21 па 24 студзеня семінар „Падставы камунальнай палітыкі — польскія і беларускія дасведчанні". Прынялі ў ім удзел дзеячы няўрадавых арганізацый Гродзеншчыны і Берасцейшчыны.

— Досвед Польшчы, якая паспяхова крочыць па шляху дэмакратызацыі, можа быць для нас вельмі павучальны, — сказаў старшыня Гродзенскай гарадской рады БНФ Сяргей Мальчык. — Асабліва цікавы працэс пабудовы органаў мясцовага самакіравання, таго асноўнага фундамента, на якім абапіраецца дэмакратыя.

Госці з Беларусі маглі на практыцы паглядзець, як у Польшчы працуюць самаўрады. Наведалі яны Гарадскую ўправу Бельска, з працай якой пазнаёміў іх бурмістр Андрэй Сцепанюк. Прадставіў ён структуру магістрата, расказаў пра такія фундаментальныя справы, як стварэнне гадавога бюджэту горада ці супрацоўніцтва муніцыпальных улад з апазіцыяй.

— Параўнанне беларускіх і польскіх органаў мясцовага самакіравання, — гаварыў спадар Мальчык, — на жаль не на карысць Беларусі. Нашы мясцовыя саветы — гэта яшчэ здабытак эпохі камунізму. Выбіраліся яны ў 1990 годзе і сёння не могуць быць прадстаўнічымі. Прытым, не маючы ўвогуле сродкаў, не могуць весці ніякай дзейнасці.

— Наш цэнтр узнік дзеля абмену думкамі палякаў і беларусаў, дзеля пабудовы ў Беларусі адкрытага грамадства і грамадзянскай супольнасці, — кажа яго праграмны дырэктар Яўген Вапа. — І мы гэта робім, арганізуючы чарговыя семінары і курсы для дзеячаў няўрадавых арганізацый з Беларусі. Галоўнае, што хочам паказаць у час такіх сустрэч, гэта магчымасць розных поглядаў на адну справу, магчымасць выбару розных варыянтаў выйсця ў дадзеным становішчы. Мы не падсоўваем гатовых рэцэптаў, развязак праблем, бо някрытычнае малпаванне чужых узораў не заўсёды прыносіць станоўчы эфект.

Паводле Сяргея Мальчыка, у Польшчы варта вучыцца ўжо хаця б таму, каб, праводзячы рэформы ў Беларусі, не паўтараць тых самых памылак.

**(ак)**

## Лукашэнка хоча забараніць апазіцыю

26 студзеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт пра перарэгістрацыю палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў Беларусі.

Згодна загаду прэзідэнта, усе дзеючыя партыі і арганізацыі і іх сімволіка з 1 лютага да 1 ліпеня павінны па-новаму зарэгістравацца ў Міністэрстве юстыцыі. Партыям неабходна прадставіць спіс сваіх сяброў у колькасці не менш тысячы чалавек, а прафсаюзам — пяцьсот. Калі на прадпрыемстве ў склад прафсаюза ўваходзіць менш 10% працоўных, арганізацыя не будзе зарэгістравана.

Дзейнасць неперарэгістраваных партый і грамадскіх арганізацый будзе забаронена.

Дэмакратычным арганізацыям прайсці перарэгістрацыю, згодна з гэтым дакументам, будзе даволі складана, паколькі трэба будзе прадставіць на зацвярджэнне не толькі дакументы, але і выявы сімволікі арганізацыі. Большасць з іх дзейнічае пад бел-чырвона-белым сцягам, на якім намаляваны партыйны знак. Вядома, што на прэзідэнцкую адміністрацыю беларускія нацыянальныя колеры дзейнічаюць, як чырвоны на іспанскі быкоў.

Арганізацыі, якія носяць імя нейкага чалавека, павінны прадставіць заяву пра згоду на гэта той асобы, або яго нашчадкаў. Такім чынам, магчыма, што Таварыству беларускай мовы імя Францыска Скарыны ці Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі прыйдзецца шукаць па ўсім свеце нашчадкаў гэтых славутых беларускіх дзеячаў.

Не пройдуць перарэгістрацыю арганізацыі, якія за год да 1 лютага былі папярэджаны пра парушэнне свайго статута ці дзеючага заканадаўства. Напрыклад, Беларускі народны фронт „Адраджэнне" атрымаў такіх папярэджаняў некалькі. Яны былі вынесены за тое, што... у некаторых газетах назва партыі была надрукавана няпоўнасцю, як гэта патрабуе заканадаўства.

**Зміцер Кісель**

## Затрымалі рэдактара „Нашага слова"

23 студзеня ў Лідзе адбыўся пікет у абарону незалежнасці Беларусі, супраць аб'яднання з Расіяй. Каля дзесяці чалавек трымалі плакаты з надпісамі: „Пратэстуем супраць аб'яднання з Расіяй!", „З жабракамі не аб'ядноўваемся!", „Абаронім наш дом — Беларусь!" ды іншыя. Некалькі чалавек раздавалі прахожым лістоўкі. Аднак неўзабаве да пікетоўшчыкаў пад'ехала міліцэйская машына і акцыя была гвалтоўна спынена. Старшыня Лідскай гарадской Рады БНФ, рэдактар газеты Таварыства беларускай мовы „Наша слова" Станіслаў Суднік, актывісты БНФ і ТБМ Уладзімір Хрышчановіч, Антон Пігулеўскі і Валянціна Пігулеўская былі арыштаваны і дастаўлены ў міліцэйскі пастарунак. На іх усіх былі складзены пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным уладамі пікеце. Пасля затрымання былі адпушчаны да 25 студзеня. У гэты дзень над імі павінен быў адбыцца суд. Але суддзя палічыў, што ў яго няма ўсіх матэрыялаў па справе і адклаў судовае пасяджэнне на невызначаны тэрмін. Удзельнікам пікета пагражае турэмнае зняволенне да 15 сутак або шматмільённы штраф. Аднак магчыма толькі папярэджанне. Відаць, правінцыйны суддзя вагаецца ў прыняцці рашэння, бо ў той самы дзень аналагічныя пікеты адбыліся ў Гродне, Гомелі, Пінску ды іншых гарадах Беларусі, але ўсюды прайшлі яны спакойна.

**Зміцер Кісель**

## Сцяг над горадам

Ноччу 22 студзеня над будынкам Менскага гарвыканкама залунаў бел-чырвона-белы сцяг. Нягледзячы на моцную міліцэйскую ахову будынка сталічнай адміністрацыі, нехта зняў з даху гарвыканкама афіцыйны чырвона-зялёны сцяг і замацаваў гістарычны бел-чырвона-белы.

**(зк)**

# У Чаромсе падтрымліваецца традыцыя

Яшчэ пры камуне Чаромха славілася грамадскімі пачынамі. Чарамшукі на кожны заклік партыі тлумна ставалі да пабудовы дарог, вуліц ці памяшканняў грамадскага карыстання. Такім чынам быў пабудаваны чыгуначны клуб культуры „Калеяж" і спартыўны стадыён. Аграмадны ўклад унеслі чыгуначнікі ў пабудову сацыяльна-тэхнічнага будынка станцыі.

Зараз, калі многае перамянілася ў грамадска-гаспадарчым жыцці пасёлка, жыхары надалей падтрымліваюць традыцыю грамадскай працы. Доказам гэтаму няхай будуць ніжэй паказаныя мерапрыемствы.

* * *

10 студзеня г.г. у Гмінным асяродку культуры арганізаваўся канцэрт, які спадарожнічаў фіналу VII Вялікага аркестра святочнай дапамогі Ежы Оўсяка. У ім удзельнічалі рок-калектывы Гайнаўкі і Чаромхі. Праводзілася зборка грошай на вуліцы і пры царкве (у час багаслужбы). Пасля канцэрта для моладзі арганізавалася дыскатэка. Ад продажу „залатых сэрцайкаў" атрымалася 700 зл. Такім чынам чарамшукі даказалі, што ў грамадскіх справах на іх можна разлічваць.

* * *

Як штогод, гміннае праўленне Саюза пенсіянераў і інвалідаў арганізавала 14 студзеня ў мясцовым ГОК навагодні баль. У мерапрыемстве ўдзельнічала за шэсцьдзесят пенсіянераў. Пры багата застаўленых сталах і смачным пачастунку, пад гукі гайнаўскіх музыкантаў весела правялі навагодні вечар чаромхаўскія сеніёры. Такія дні надоўга застануцца ім у памяці.

* * *

24 студзеня Гмінны асяродак культуры арганізаваў „Вечар калядак". У мерапрыемстве ўдзельнічалі дарослыя і дзеці. Дастойнымі гасцямі былі святары чаромхаўскага і кузаўскага прыходаў айцы Ю. Пліс, Ю. Крысяк і М. Беламызы.

Канцэрт пачаўся выступленнем мясцовай „Чарамшыны", якая выканала тры калядкі і пастаралку (дзве з іх на польскай мове). Затым выступіў духавы аркестр чыгуначнікаў пад кіраўніцтвам Юзэфа Коркуса.

Амаль палову праграмы склалі выступленні дзяцей і школьнай моладзі, згуртаваных у музычным гуртку пры мясцовым ГОК і дзіцячых хорах чаромхаўскай і кузаўскай цэркваў.

У катэгорыі дарослых выканаўцаў прэзентаваліся два жаночыя калектывы — з Чаромхі і Вулькі-Тэрахоўскай.

Агляд завяршыла маладзёжная група музычнага гуртка сцэнкай „Адкрыліся ім вочы".

Трэба адзначыць, што чаромхаўскі агляд калядак быў дасканала падрыхтаваны і прыцягнуў аграмадную публіку. У зале не засталося ніводнага вольнага месца — некалькі дзесяткаў чалавек вымушаны былі стаяць.

**Уладзімір Сідарук**

# Ці будзе ў белліцэі гімназія?

— Хочам стварыць у нашым гайнаўскім белліцэі безакруговую гімназію з трыма паралельнымі класамі, у якой маглі б вучыцца выпускнікі ўсіх гайнаўскіх падставовых школ і вучні з навакольных вёсак, калі б згодны былі іх гмінныя ўлады. Вучні, якія прынеслі б дакументы ў нашу гімназію адразу пацвердзілі б гэтым згоду на навучанне беларускай мове. Калі б пачала працаваць гімназія, абмежавалі б да трох колькасць паралельных класаў у ліцэі і канчаткова было б у школе васемнаццаць аддзелаў, — кажа дырэктар Яўген Сачко. — На маю думку, карысным будзе стварэнне ў нашай школе гімназіі з абавязковым навучаннем беларускай мовы. На працягу шасці гадоў вучні намнога лепш авалодаюць беларускай мовай і лепш падрыхтуюцца да экзамену на атэстат сталасці. Настаўнікі іншых прадметаў таксама напэўна змогуць лепш падрыхтаваць вучняў да дзяржаўных ужо матуральных экзаменаў і экзаменаў у вышэйшыя ўстановы. Калі б застаўся ў нас толькі трохгадовы ліцэй, нявыкарыстаны быў бы новы будынак з вялікай спартыўнай залай, сталовай і, магчыма, у будучыні — з басейнам.

Новыя правілы, якія абавязваюць згодна з рэформай школьніцтва, дазваляюць ствараць комплексы сярэдніх школ, калі зацікаўленыя павет і гміна дамовяцца наконт фінансавання такой школы.

— Размаўляў я ўжо са старастам Гайнаўскага павета, Уладзімірам Пятрочукам, які згодны на дадатковае выкарыстанне нашага будынка і вырашэнне справы залежаць будзе цяпер ад Управы і Рады гміны горада Гайнаўкі, бо гарадскія ўлады мусілі б пералічыць неабходныя сродкі прадбачаныя дзяржаўнай датацыяй на фінансаванне гімназіяў, у павет, — паясняе Яўген Сачко.

Зараз улады ў кожнай гміне павінны вырашыць, у якіх школьных будынках застануцца падставовыя школы, а дзе будуць гімназіі.

— Цяпер апрача нашай прапановы гарадская асветная ўстанова распрацавала яшчэ дзве канцэпцыі. Паводле адной, у нашым ліцэі паўстала б гімназія, але былі б у ёй толькі два паралельныя класы. Другая прапанова ўвогуле не прадбачвае ў нас гімназіі. У абодвух гмінных варыянтах на гімназію выкарыстаны быў бы ўвесь будынак цяперашняй школы н-р 1 і адзін будынак у школе н-р 6. Справа вырашацца будзе цяпер ва Управе горада, асветнай камісіі, а пасля ў час пасяджэння Гарадской рады, — гаворыць дырэктар Яўген Сачко. — Мы аднак будзем адстойваць варыянт гімназіі ў нашым ліцэі з трыма класамі, што не перашкадзе гімназіям у школах н-р 1 і 6.

— У час апошняга пасяджэння Клуба радных БНВК, якое адбылося 20 студзеня 1999 года ў Беларускім музеі, разглядалі мы справу навучання беларускай мовы ў гімназіях Гайнаўкі. Памятаючы, што не ўдалося стварыць паасобных класаў з абавязковай беларускай мовай навучання ў новапабудаванай школе н-р 6, вырашылі мы, што найлепш было б стварыць безакруговую гімназію з трыма паралельнымі класамі пры белліцэі, дзе навучанне беларускай мовы было б абавязковым, а ў іншых гімназіях прадмет беларускай мовы быў бы добраахвотным, — кажа старшыня БНВК у Гайнаўцы Міхал Голуб. — Нашы радныя будуць намагацца, каб гэтае вырашэнне было прынята канчаткова ў час пасяджэння Гарадской рады.

Калі існуе магчымасць пашырэння абавязковай вучобы беларускай мовы, трэба скарыстаць нагоду, што ва ўмовах Гайнаўкі неабходнае для навучання роднай мовы ў будучыні. Параўноўваючы колькасць вучняў, якія вучацца беларускай мове ў падставовых школах Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага, трэба скарыстаць бельскі вопыт.

**Аляксей Мароз**

# Клуб радных БНВК

Радныя ад Беларускага народнага выбарчага камітэта 29 снежня 1998 года заснавалі Клуб радных БНВК у Гарадской радзе Гайнаўкі, а 20 студзеня 1999 года распрацавалі план працы Клуба, старшынёю якога стаў Міхал Байко, намеснікам — Ірэна Сегень, сакратаром — Мікола Галёнка, а скарбнікам — Анатоль Аксянтовіч.

— У рамках Клуба БНВК хочам спатыкацца перад сесіямі, каб абмеркаваць прапановы, якія будуць выносіцца на пасяджэнні камісій і Рады, — кажа старшыня Клуба Міхал Байко. — Працуючы ў Клубе зможам таксама лепш ажыццяўляць нашу выбарчую праграму. Хочам арганізаваць у Беларускім музеі пастаянныя дзяжурствы, каб жыхары горада маглі прыходзіць са сваімі справамі, якія пасля мы маглі б абмяркоўваць і вырашаць у Радзе. Думаем таксама выдаваць свой інфармацыйны бюлетэнь, а адказным за гэта будзе Міхал Андрасюк, намеснік старшыні БНВК. Будзем у ім інфармаваць аб рэалізацыі нашай выбарчай праграмы.

Старшыня Беларускага народнага выбарчага камітэта Міхал Голуб заявіў, што будзе яшчэ таксама дзейнічаць і сам БНВК, бо палажэнне аб выбарах дазваляе на такую дзейнасць яшчэ на працягу года ад выбараў.

— Я станоўча ацэньваю стварэнне Клуба радных БНВК. Вельмі добра, што будуць дзяжурствы і свой бюлетэнь, у якім радныя будуць выяўляць свае думкі наконт вырашэння розных спраў у Гарадской радзе, — гаворыць старшыня БНВК Міхал Голуб (радным ён не з'яўляецца). — Будзем дзейнічаць паралельна з Клубам радных і супрацоўнічаць з ім. Мы ж адказны за выбарчую праграму перад выбаршчыкамі. У супольную працу хочам уключыць таксама і нашых радных з Гайнаўскага павета, таму што справы павета не менш важныя чым праблемы горада. Мы ж таксама амаль усе выводзімся з навакольных вёсак. Ужо ў час выбарчай кампаніі гаварылі мы, што трэба будзе заснаваць Клуб і супольна вырашаць праблемы горада і павета. Апрача дзяжурстваў будзем арганізаваць таксама сустрэчы з гараджанамі, каб разглядаць канкрэтныя справы.

**(ам-з)**

# Парламентарыі ў Бельску

24 студзеня г.г. у Бельску-Падляшскім пасля экуменічнага набажэнства адбылося спатканне жыхароў Бельскага павета з парламентарыямі Падляшскага ваяводства. Арганізатарам сустрэчы, падчас якой з выбаршчыкамі спаткаліся сенатары Ян Хайноўскі і Станіслаў Марчук ды паслы Юзэф Мазалеўскі, Вальдэмар Паўлоўскі і Кшыштаф Юргель была Рада Бельскага павета.

У ходзе сустрэчы пераважалі сельскагаспадарчыя справы. Удзельнікаў спаткання цікавіла чаму зямля прадаецца чужаземцам, што робіць Міністэрства сельскай гаспадаркі, каб прыцягнуць дапаможныя фонды PHARE. Ставіліся таксама пытанні наконт рэнтабельнасці сельскагаспадарчай вытворчасці. Сабраныя з вуснаў парламентарыяў пачулі пра планы вырашэння набалелых праблем і нараканні на папярэднюю ўрадавую каманду СЛД-ПСЛ, якая купіла за мяжой столькі збожжа, што хопіць яго на два гады.

Удзельнікі спаткання пыталі таксама пра прайграную баталію за ваяводства — Элк, Голдап і Алецка апынуліся ў межах Вармінска-Мазурскага ваяводства, а не Падляшскага. Парламентарыі патлумачылі гэта тым, што проста іх у Сейме перагаласавалі.

**Міхал Мінцэвіч**

# Выбары солтыса

21 студзеня 1999 г. у Вульцы-Тэрахоўскай (Чаромхаўскай гміны) адбыліся выбары солтыса. У вясковым сходзе ўдзельнічаў войт Міхал Врублеўскі. Адказным за правядзенне выбараў быў радны Янка Кубіцкі.

Адзіным кандыдатам на пасаду солтыса была Галена Назарук, якая дагэтуль выконвала яго абавязкі.

Галена Назарук была раднай гміны ў мінулай кадэнцыі. Паспяхова прайшла выбары ў мінулым годзе. Карыстаецца даверам аднавяскоўцаў. Таму і зараз жыхары гэтай невялічкай прыгранічнай мясціны палічылі, што не знойдуць лепшага чалавека на пасаду солтыса.

— Гэта адказны чалавек, — сказаў мне ў час сустрэчы Янка Кубіцкі. — Актыўна ўдзельнічае ў сесіях. Выступае у справах вёскі ды паасобных гаспадароў прадумана і разважна.

Ды і вульчане гэта дружны народ. Жывуць быццам у адной сям'і. Жанчыны арганізавалі вакальную групу. Выязджаюць з канцэртамі, а мужчыны выконваюць іхнія гаспадарскія абавязкі. У час сустрэчы прасілі войта, каб закончыць асфальтаванне вуліцы ды падзякавалі яму за тое, што дагэтуль для іх зрабіў.

**(ус)**

# З Арлянскай гміны адыходзяць людзі

У Арлянскай гміне памірае ўтрая больш людзей, чым нараджаецца і таму лік жыхароў гміны пастаянна скарачаецца. Напрыклад, у кастрычніку мінулага года ў гміне пражывала 4091 чалавек, а цяпер — 3966 асоб. Гэта будзе мець практычныя паслядоўнасці на наступных самаўрадавых выбарах. Летась у гмінную раду выбралі 18 радных, бо гміна налічвала тады звыш чатырох тысяч грамадзян, а пры цяперашняй дэмаграфічнай сітуацыі рада налічвала б ужо 15 дэпутатаў.

3 кастрычніка мінулага года з тэрыторыі гміны выехалі 63 асобы, памерлі — 82, а нарадзілася толькі 29 дзяцей. Не вядома ці ўсе яны пойдуць у мясцовую школу, бо многія малечы пераязджаюць з бацькамі ў гарады. Падобная колькасць дзяцей нараджалася і ў папярэдніх гадах: у 1997 — 21, 1996 — 32, 1995 — 20, 1994 — 34, 1993 — 30, 1992 — 29. У мінулым годзе ў арлянскім ЗАГСе павянчалася толькі 14, а ў 1997 — 15 пар.

Сама Орля яшчэ ў 1976 г. налічвала амаль 1500 жыхароў. Падчас апошніх самаўрадавых выбараў, у кастрычніку 1998 г., арлян было ўжо 1026, а цяпер — толькі 995 чалавек. На працягу некалькіх месяцаў лічба жыхароў Орлі скарацілася на 125 чалавек. Гэта так, як бы прапала адна вёска.

**(лч)**

# Францішак Аляхновіч



Неўзабаве міне 55 гадоў ад часу трагічнай смерці беларускага драматурга, пісьменніка, публіцыста, арганізатара беларускага тэатральнага жыцця ў Вільні Францішка Аляхновіча. 3 сакавіка 1944 г. быў ён замардаваны ў сваёй кватэры ў Вільні невядомымі забойцамі. Гісторыкі наконт яго смерці ставяць толькі гіпотэзы. Адны сцвярджаюць, што забіла яго савецкае падполле, другія — што польскае. Адназначных крыніц, якія асвятлілі б гэтую таямніцу пакуль што няма. Вядома толькі, што Аляхновіч загінуў за праўду наконт беларуска-савецкіх і беларуска-польскіх адносін у час нямецкай акупацыі, якую змяшчаў у друку.

Францішак Аляхновіч нарадзіўся 9 сакавіка 1883 г. у Вільні. Там закончыў хімічны тэхнікум, а пасля стаў слухачом Ягелонскага універсітэта. Вучыўся таксама ў музычнай школе ў Варшаве, дзе стаў на працу ў адным з прыватных тэатраў. У 1908 г. вярнуўся ў Вільню і пачаў сваю вялікую публіцыстычную і тэатральную дзейнасць. Змяшчаў свае артыкулы ў польска-, беларуска- і рускамоўных часопісах. Пісаў найбольш пра тэатральнае жыццё, але таксама шмат сатырычных твораў, якіх героямі былі найчасцей расійскія чыноўнікі. За апісанне суда, які чакаў у небе аднаго з віленскіх русіфікатараў — нейкага Пурышкевіча — быў пазваны ў суд. Ведаючы, што пагражае яму шматгадовая пабыўка ў турме, Аляхновіч вымушаны быў уцякаць у межы Аўстрыйскай імперыі, дзе працаваў найчасцей акцёрам у вандроўных тэатрах.

Калі толькі ў 1913 г. цар аб'явіў амністыю, вярнуўся ў Вільню, але быў арыштаваны і атрымаў год зняволення. Час пабыўкі ў турме выкарыстаў на літаратурную творчасць. Там узнікла яго першая драма „На Антокалі". Першы раз паставілі яе ў адным з віленскіх тэатраў у 1916 г. і выклікала яна вялікае зацікаўленне тамашняй публікі. Аляхновіча чыталі і глядзелі ягоныя п'есы не толькі беларусы, але таксама палякі, яўрэі, рускія. Тады ўсе жыхары Вільні карысталіся беларускай мовай.

Падчас першай нямецкай акупацыі Аляхновіч выдаваў газеты і часопісы. Найбольш вядомыя — „Беларускія ведамасці", „Беларускае жыццё" і „Беларускі звон". У 1919 г. у сваёй публіцыстыцы падтрымліваў ідэю незалежнасці Беларусі, але калі зніклі шанцы яе здзяйснення, выказаўся за беларуска-польскі саюз. З вялікім расчараваннем успрыняў Аляхновіч падпісанне Рыжскага дагавора, які падзяліў Беларусь паміж Польшчу і бальшавіцкую Расію. На старонках „Беларускага жыцця", якое на пачатку дваццатых гадоў яшчэ выходзіла ў Вільні, Аляхновіч змяшчаў роздумы Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Леапольда Родзевіча, Наталлі Арсеннеавай і пераконваў чытачоў, што толькі свая, нацыянальная культура можа выратаваць беларусаў, даць ім свабоду і дзяржаву.

У Вільні, пасля далучэння горада у 1922 г. да Польшчы, мясцовая адміністрацыя кінулася паланізаваць усе галіны грамадскага жыцця. Для беларускай культуры і нацыянальнай дзейнасці замыкаліся ўсе магчымасці развіцця. Стала горш чым пры царскай Расіі. На другім баку рыжскай мяжы саветы стварылі нацыянальную беларускую дзяржаву. Аляхновіч пасля доўгіх роздумаў вырашыў пасяліцца ў Савецкай Беларусі. Прыехаў у Мінск у 1926 г. на канферэнцыю і астаўся там жыць. Аднак саветы ў гэты час пачыналі мяняць нацыянальную палітыку. Усе стваральнікі беларускай культуры спачатку сталі падазронымі, а затым — „ворагамі народа". Аляхновіча неўзабаве арыштавалі і саслалі на 10 гадоў на Салаўкі. У 1933 г. у выніку абмену палітычнымі вязнямі паміж СССР і Польшчай саветы памянялі яго на Браніслава Тарашкевіча, якога палякі адпусцілі з турмы. Два вялікія беларусы сустрэліся на дзяржаўнай мяжы. Адзін вяртаўся ў Вільню апісваць савецкія канцлагеры, другі, па сваёй волі, ішоў у рукі сталінскіх апрычнікаў.

У 1935 г. у Вільні паказалася кніжка Францішка Аляхновіча *У кіпцюрох ГПУ*, якая прадстаўляла салавецкі перыяд жыцця аўтара. Кніжка была перакладзена на 7 моў і да II сусветнай вайны паказался ў шматлікіх краінах свету.

Пасля ўваходу Чырвонай Арміі ў Вільню Аляхновіч вымушаны быў хавацца ад НКВД, пасля выехаў з горада і стаў працаваць рабочым у малых мясцовасцях Віленшчыны. Падчас нямецкай акупацыі вярнуўся да выдавецкай і тэатральнай дзейнасці. З дазволу немцаў выдаваў культурны часопіс „Беларускі голас Вільні". У 1944 г. змяшчаў там шмат матэрыялаў пра антыбеларускую дзейнасць польскага падполля на Віленшчыне. Не спыняў таксама пісаць пра адносіны камуністаў да беларускасці. Аказалася гэта вельмі небяспечным заняткам.

Францішак Аляхновіч напісаў 18 п'ес, пару дзесяткаў апавяданняў, пару сотзень артыкулаў пра беларускую культуру. Па палітычных прычынах яго творчасць была малавядомая на Беларусі. Аляхновіча пачалі адкрываць толькі тады, калі ўзнікла незалежная Беларусь, на пачатку дзевяностых гадоў. Але неўзабаве вярнулася саветызацыя і нанава стаў ён ідэйна чужым пісьменнікам.

**Яўген Мірановіч**

# Back to the USSR

**Фундую настальгічнае падарожжа назад, у Савецкі Саюз! Як дарма і да самых вытокаў — да ўтварэння БССР! Такую аб'яву смела можа даць складальнік „Беларускага календара на 1999 год*" Уладзімір Юзвюк.**

Кніжнае выданне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое ўжо каторы год выпускаецца ў Менску, пачынаецца з юбілейнага артыкула: „1 студзеня 1919 года, услед за рашэннямі I з'езда КП(б) Беларусі, быў апублікаваны Маніфест Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі (старшыня З. Жылуновіч) аб абвяшчэнні незалежнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь". Гэтая „незалежнасць" была вынікам таго, што: „Беларускі народ у гады першай сусветнай вайны свядома дамагаўся сваёй дзяржаўнасці, але доўга не атрымліваў прызнання акупацыйных уладаў. Усё канчалася дэкларацыямі і бязлітасным знішчэннем рэвалюцыйных сіл".

Вядома, што ўсе дабээсэсэраўскія інтрыгі нацыяналістаў, уключна з рознымі там бээнэрамі, не заслугоўваюць згадкі. Не зразумелае адно, чаму рэвалюцыйныя сілы „знішчаліся бязлітасна" за „свядомых (якія ж яшчэ іншыя могуць быць — М. В.) дамаганні" народа. Як быццам у рэвалюцыянераў сваіх правін не было.

Гэты артыкул настолькі смакавіты сваёй паэтыкай і дыялектыкай, што хацелася б працытаваць яго поўнасцю, слова за словам. З увагі на памеры аглядy, мусім задаволіцца толькі высновай: „На звышсямідзесяцігадовы перыяд існавання БССР выпалі не толькі бяспрыкладныя ў свеце знішчэнні гаспадаркі, культуры, насельніцтва (асабліва ў гады першай і другой сусветных войнаў), але таксама хуткае развіццё прамысловасці, асветы і ўмацаванне своеасаблівай нацыянальнай свядомасці". Пераказ гісторыі атрымаўся густы, змястоўны і, не будзем таго скрываць, своеасаблівы!

Але ж і сучасныя падзеі атрымалі не горшых справаздаўцаў. Старшыні ГП БГКТ Янку Сычэўскаму выпаў гонар дакладваць пра II З'езд беларусаў свету самому прэзідэнту Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку. І ён не даў промаху: „Калі мы выказвалі свае погляды, нас выганялі з залы, «бралі за горла», як ужо гаварылася. Жанчыну вялі, каб пабіць ці штосьць больш дрэннае зрабіць. Гэта ўжо страшная з'ява. Калі бяруць верх нацыяналізм, шавінізм, нянавісць, тады няма месца для таго, каб думаць, няма месца для таго, каб у інтэлектуальным плане вырашаць асобныя праблемы". Вось табе і Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына", вось табе і згуртаванне прафесараў ды пісьменнікаў. У ім жа „няма месца для таго, каб думаць". Высокапаважаны Спадар Прэзідэнт, ветліва просім пашырыць ім кругагляд. На сібірскі.

Летапіс дзейнасці БГКТ ад ліпеня 1997 да жніўня 1998 года займае сорак старонак календара. Пералічаны тут усе фэсты, найважнейшыя госці і калектывы. Але гэтага мала. Пад іншай датай прачытаем занатоўку, кшталту: „Старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі і сакратар В. Ласкевіч адбылі сустрэчы: з войтам гміны Гайнаўка Оляй Рыгаровіч па справе беларускага фестыну ў Навасадах, з войтам гміны Нараўка М. Павільчам і дырэктарам ГОК А. Скепка ў Нараўцы па справе фестыну ў Семяноўцы". І дзякуючы гэтаму маем пашыраныя і паглыбленыя веды пра святы ў тых жа Навасадах і Семяноўцы.

„Абсалютная большасць беларусаў на Беласточчыне — праваслаўныя", — адкрылі сенсацыю навуковыя супрацоўнікі Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў БДУ Надзея Галубкова і Ларыса Саглаева, якія малююць „сацыялагічныя рысы партрэта" беларусаў Беласточчыны. Кожны малюе, як бачыць. Менскія спадарыні тут не выключэнне. Яны раскрылі „вельмі значную рысу самасвядомасці беларусаў — іх народную памяць". Далей самыя геніяльныя мазкі пэндзля: „Найбольш актыўныя яе носьбіты — людзі старэйшага ўзросту. Дзякуючы іх і іх бацькам фарміруюцца, замацоўваюцца і ўтрымліваюцца, становяцца набыткам супольнасці звычаі, традыцыі, стыль жыцця — сацыяльна-ўстойлівыя формы грамадскіх каштоўнасцей". Постмадэрн у чыстай форме.

Уладзімір Юзвюк узняўся вышэй за свой лёс. Са складальніка календара палявых прац і бядлячай цяжарнасці ў рэдактара постмадэрністычнага журнала. Пад адну вокладку запхнуў „Кароткі курс ВКП(б)", даведнік юнага агітатара, фальклорную песню, трызненне мастака-навукоўца і зрэзаныя з іншых выданняў (без спасылкі на крыніцу) апмоткі літаратуры. Вітаем у краіне парадоксаў. Welcome to the USSR.

**Мікола Ваўранюк**

**Беларускі каляндар 1999*, Выдавецтва „Беларусь", Мінск 1998.

# Kultura pod strzechy

**Fundacja Batorego stawia na lokalne inicjatywy kulturalne**

Projekty kulturalne skierowane do społeczności gmin i powiatów, do małych miejscowości oraz wsi — oto jeden z nowych konkursów Fundacji im. Stefana Batorego. Do udziału w nim zaproszone są powiatowe i gminne samorządy, instytucje budżetowe, lokalne ośrodki kultury, organizacje pozarządowe, a także nieformalne grupy twórców i artystów.

W **konkursie „Kultura lokalna"** można się ubiegać o dotacje na roczne (długookresowe) programy działalności kulturalnej na rzecz lokalnych społeczności oraz imprezy i wydarzenia artystyczne z dziedziny teatru, muzyki, literatury oraz interdyscyplinarne organizowane poza dużymi centrami kulturalnymi. Preferowane będą projekty sprzyjające budowaniu zarówno więzi lokalnych, jak i postaw otwartości wobec różnic środowiskowych, narodowościowych, religijnych. Wnioski o dotacje rozpatrywane będą 2 razy w roku. Terminy składania projektów Fundacja wyznaczyła do **1 marca** i do **1 września** (rozstrzygnięcie konkursów nastąpi odpowiednio na początku maja lub listopada).

Równolegle Fundacja ogłasza drugi **konkurs** — dla organizacji pozarządowych — **na najlepszy projekt kulturalny adresowany do społeczności wiejskiej**. W tym konkursie przyznane zostaną trzy nagrody o wysokości: I — 40 000 zł, II — 25 000 zł, i III — 15 000 zł. Nagrody przyznawane będą raz w roku (projekty należy składać do 1 czerwca), na początku sierpnia.

W ramach Programu Kulturalnego o pomoc finansową Fundacji im. Stefana Batorego mogą ubiegać się także związki i stowarzyszenia działające na rzecz mniejszości narodowych i etnicznych. „W 1998 roku potrzeby okazały się znacznie większe niż myśleliśmy" — zauważa Piotr Halberszstat. — „Powodów było kilka — najważniejsze z nich to pogorszenie się sytuacji mniejszości cygańskiej w Polsce, aktywizacja mniejszości białoruskiej w związku z sytuacją na Białorusi (likwidacja niezależnych od reżimu Łukaszenki stowarzyszeń, fundacji i środków masowego przekazu), ale również większe potrzeby organizacji i instytucji polskich, które częściej podejmują działania edukacyjne i kulturalne związane z zamieszkującymi Polskę mniejszościami narodowymi i etnicznymi". Stąd też Fundacja po raz kolejny ogłasza **konkurs na projekty dotyczące historii, edukacji i kultury mniejszości narodowych**, który będzie organizowany trzy razy w roku (terminy składania aplikacji: do **1 marca**; do **1 czerwca**; do **1 września**).

Podobnie jak w 1998 roku będziemy przyznawać pomoc dla organizatorów imprez o charakterze międzynarodowym (regionalnym), w ramach programu **„Sztuka bez granic"**. Fundacja będzie też wspierać najbardziej wartościowe imprezy i projekty ważne dla rozwoju kultury narodowej.

Szczegółowe informacje oraz warunki składania wniosków uzyskać można pod adresem: Program Kulturalny Fundacji im. Stefana Batorego, ul. Flory 9 (IV p.); 00-586 Warszawa, tel. (022) 48 80 55; e-mail: kultura@batory.org.pl

# Літаратурная старонка (469)

Міхась Андрасюк

## Пані Зося

Прыёмнай дырэктара фабрыкі драўляных упаковак валодае пані Зося. Так ужо ён уладкаваны, гэты свет: аднаму сляпы лёс даручае каралеўства, другому — армію жывых людзей, а вось пані Зося атрымала пакойчык, пісьмовы стол, крэсла, ды шмат патрэбнай, як і зусім лішняй паперы. Хай яно ўсё і не ад сляпога лёсу; дзядзька Юра, як сакратар завадской партыйнай арганізацыі таксама ж зрабіў што трэба зрабіць дзеля павышэння статусу вясковай пляменніцы, аднак ці варта гаварыць пра метад, калі канчатковы рэзультат атрымаўся цалкам прыстойны? А, дарэчы, хто сёння памятае партыю, а тым больш яе сярэдняга калібру сыноў? Ніхто. Нат пані Зося, калі ўжо спытаць яе пра прафесійныя крыніцы, успамяне беластоцкую гастранамічную школу, прыгадае і ліцэй у Дубінах, уваскрэсніць у яе памяці добрыя і благія здарэнні з камп'ютэрных курсаў у Гайнаўцы. А вось пра дзядзьку Юру не пачуеце ад яе ні слова. Няўдзячнасць? Хіба не. Калі ўжо і ёсць нейкія прычыны гэтай кароткай памяці, тады перш за ўсё трэба падумаць пра апалітычнасць прафесіяналаў. А яна — вышэй за ўсякія сваяцкасці. Такім чынам сундукаватая постаць дзядзькі Юры адышла ў забыццё. Час ад часу стрэнеце яе ў мясцовым парку. Разгортваючы прытаптанымі чаравікамі сухое лісце, няспешна брыдзе ў халодную імглу, задумоўваючыся над падманлівасцю жыцця, над нетрываласцю ўлады і моцы. І над несмяротнасцю Няўдзячнасці. А ў парку прытуляюцца, абдымаюцца, цалуюцца маладыя. І не пачуеш слова „дзякуй" за свой бескарыслівы рэвалюцыйны труд.

— Кава? Гарбата? — спытае пані Зося, калі ўжо пераступіце парогі яе пакойчыка.

Вядома, далёка не кожнаму такое пытанне ставіцца. Прыёмная дырэктара фабрыкі драўляных упаковак усё-такі не гастранамічны прыбытак, дзе першы лепшы бадзяга, ледзь расчыніўшы дзверы, выяўляе жаданне дагадзіць свайму страўніку, а чуйныя афіцыянткі — здаецца — чытаюць у думках сваіх кліентаў.

Калі аднак пані Зося, крыху прынамсі, ведае вашу асобу, можаце спадзявацца традыцыйнага: „Кава ці гарбата?"

Вы, пэўна, прыкмецілі ўжо, што ў горадзе ўсе сустрэчы, так прыватныя, як і афіцыйныя, службовыя, пачынаюцца з піцця кавы або прынамсі гарбаты. Асабліва моцна трымаюцца за гэты абрад маладыя жанчыны, якія не так даўно прыехалі сюды з навакольных вёсак. Занадта рана аблажыўшыся патомствам і хатнімі, празаічнымі абавязкамі, мрояць пра вялікі, бліскучы, бачаны ў тэлевізары свет. І апошняй ніткай, якая спалучае іх з гэтай тэлевізійнай ілюзіяй, з'яўляецца кубак ранішняй кавы. Так яно бывае з паспалітымі, шэрымі жанчынамі. А вось у пані Зосі жаданне, каб пачаставаць вас гарбатай мае зусім іншыя прычыны, ды справа тут не ў комплексах, але ў звычайнай гасціннасці, далікатнасці і культурнасці. Такая ўжо яна ёсць, пані Зося.

Другі год адыходзіць у нябыт, як дантыстычны тэхнік Апенька зрабіў ёй шлюбную прапанову, а пані Зося з-за далікатнасці не адказвае ні так, ні не. Пастаронння людзі — бо толькі яны ўсё і пра ўсіх ведаюць — пашэптваюць тайком, што Зосіна сэрца назаўжды захапіў непрысутны ўжо ў горадзе мастак Шура. Мо і праўда, каханне іхняе безумоўна было ў найвышэйшым гатунку і справы ішлі туды, куды трэба, значыць — пад вянец.

— А акварэль, гэта рыба марская ці прэснаводная? — спытала дзяўчына, не здагадваючыся нат, што такі нявінны, на пагляд звычайны сказ, перайначыць і сённяшні дзень, і так дакладна абдуманую будучыню. Мастак Шура натужліва якраз змагаўся з Зосіным актам, дабываючы з уяўлення (зласліўцы кажуць, што не толькі з яго) дзявочыя грудзі, каб перанесці іх у раёны даступныя і іншым пачуццям, пачуўшы такое, спачатку збялеў, потым пачырванеў раптоўна, а яшчэ потым, элегантна паклаўшы пэндзаль, заявіў неадкладную патрэбу схадзіць у кіёск за папяросамі. І больш яго ў мястэчку не бачылі.

Хваліўся потым наш мясцовы цырульнік, што сустрэў аднойчы Шуру ў Варшаве на Ружыцкім базары. У парваным пінжаку, ашчацінелы, прагульваўся між ларкамі, час ад часу пакрыкваючы:

— Макрэль — акварэль — селядцы! Акула — бамбула — кіт!

Людзі праходзілі абыякава, часам толькі той ці сёй спыніўся, каб больш дакладна распытаць пра выгляд ці харчовыя звычаі незвычайнай рыбы бамбулы.

Пані Зосі, у памяць раптоўна закончанага кахання, астаўся выразна незакончаны партрэт: там, дзе жанчыны звычаёва носяць грудзі, калечыць вочы парожнее месца. І — магчыма — як цяпер задумоўваюцца спецыялісты, хто і чаму акалечыў мілоскую Венеру, так у далёкай прышласці задумаецца нейкі аматар мастацтва: хто і чаму адняў грудзі Зосі з Гайнаўкі?

Ірэна Кулік

* * *

Падглядаю думкі
Вопытных сноў
Таплюся ў красе
Стомленага маўчання

Чулліва клічу
Начную прастору
Пакорна цалую
Полымя
Тваёй
Малітвы

Міра Лукша

## Садом

Двух у белым убранні
прыйшлі ў горад вячэрні,
засмужаны незразумелым сумам
і кіслым пахам віна. Чыстае адзенне
здалося ўсім у паўзморку
такім жа шэрым і брудным,
як у жыхароў небаскробаў і каналаў.
Сум адчувалі сваім глыбокім дыхам
толькі вельмі цвярозыя людзі,
якіх віно ўжо не брала або хворыя —
ім нельга піць напой пахучы цвіллю
і разрываючы бутэлькі ў пене;
бо добрае віно прапала, а гарэлкай і спіртам
лячылі скулы і незагойныя раны.
З мяса курэў жахліва сціснуты дых
нядаўна памерлых у пакутах жывёл.
І страх чорных вуліц звіваўся ў туман,
і ныраў у пад'езды, аблезлыя дворыкі
і азызлыя, слізкія брамы.

Запрасіў гэтых чыстых чалавекаў
муляр Ігар Б., званы Лотам.
Частаваў іх хлебам, сырам і салам,
— а жонка маўчала сёння незвычайна, —
не называючы псіхам ненармальным,
— спаць паклаў на канапе,
сам лёг у кухні на раскладушцы.
І ўсю ноч пераклікаліся яны
ўтраіх цераз кухонныя дзверы.
Гэты горад загіне, знішчожаны
сераў, волавам, агнём і злосцю.
Бог яго сатрэ з зямлі,
бо чалавека тут хіба не знойдзеш,
казалі госці, а Лот прасіўся:
Давайце, таварышы анёлы, пашукаем,
калі не тузін чалавекаў знойдзем,
то хоць з трох будзе з тых,
хто навідзіць сябе, і слова шануе,
і робіць дабро, не чынячы зла.
Тут у нас ёсць і вучоны народ,
і звычайныя людзі, што працуюць
і хваляць добрую вестку...

Збілі боты і сэрцы, і ніяк не знайшлі,
бо калі і быў хто такі,
то вельмі добра схаваўся.

І пакінуў з анёламі Ігар свой горад.
Жонка з ім не пайшла; і кватэра з ёй
асталася ў астылым доме высокім.
І сцелецца над местам буры смуродны дым,
ці то гар спаленых касцей, ці душаў чад.

Чорную пляму на сваіх картах бачаць птушкі
замест таго горада, і яго абмінаюць;
з зямлі гэта не відна, і бывае такое,
што калі хто сюды заязджае,
хто па справе, а хто славы ці хлеба шукаючы,
назад адтуль ужо не вяртаецца,
і ніхто яго не шукае.

Міхась Шаховіч

## Натхненне

Ноччу страшна крычалі вароны.
Так прашальна-хаўтурна.
Каркалі. У чорнае неба зрываліся.
Час сонцу ішоў на ратунак.
Зямля ад распусты шукала прыхілу.
Думкі трызнілі ў гарачцы-агоніі,
Аж вечнасці подых адчулі.

І вырвалася сонца з палону.

Залётна міргнула.
Дбайна прайшло па змарнелым загоне
І сейбіта боязь спазнала.
Сум свой у росах схавала.
Спахапілася. Небу нешта шапнула,
З высі шчасна зірнула і развіталася.
І зноўку трывога вярнулася.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Пра маладых дэкламатараў

„Роднае слова”. Які глыбокі сэнс у гэтым спалучэнні. Роднае тым, каму блізкая беларуская мова. Роднае тым, каму зразумелая наша культура. Роднае — гэта сваё, блізкае, дарагое. Роднае — тое, што чуеш у крыві. Роднае — тое, што прынята з малаком маці.

Вось пад такой гучнай назвай праходзіў дэкламатарскі конкурс „Роднае слова”. Конкурс гэты праводзіўся ў трох этапах. Спачатку былі школьныя (гмінныя) элімінацыі, пасля раённыя і вось, найлепшыя з найлепшых былі выбраны для ўдзелу ў цэнтральным конкурсе. Доўгую дарогу да апошняга этапу прайшлі вучні. Патрабаванні камісій былі вялікія. І вось, нарэшце, настаў дзень 22 студзеня 1999 года, дзень апошняга этапу конкурсу. Цэнтральныя элімінацыі. Лаўрэаты розных конкурсаў з Падляшскага ваяводства прыехалі ў Нараўку, мястэчка на ўскраі Белавежскай пушчы. 60 вучняў з 25 школ прыбылі, каб прыняць удзел у фінале „Роднага слова”.

І сапраўды былі тут найлепшыя з найлепшых. Узровень падрыхтоўкі вучняў быў вельмі высокі. Удзельнікі конкурсу былі падзелены на тры ўзроставыя групы. Першая група — вучні I-III класаў. Другая — IV-V класы. Трэцяя — VI-VIII класы. Конкурснікаў ацэньвала камісія з трох асоб: Тамара Русачык, Янка Целушэцкі і Наталля Герасімюк.



*Дэкламатаркі з VI „а” бельскай „тройкі”.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У першай узроставай групе лаўрэатамі сталі: I месца — **Войтэк Ляшчук** з Семяноўкі, **Марта Бабулевіч** са школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім, II месца — **Агнешка Врублеўская** з Кленік, III месца — **Магда Крыстасюк** і **Магда Пахвіцэвіч** са школы н-3 у Бельску-Падляшскім.

У другой узроставай групе I месца заняла **Магда Чыквін** са школы н-р 2 у Гайнаўцы. II месца — **Барбара Каліноўская** — школа н-р 6 у Гайнаўцы і **Павел Герасімюк** з Орлі. III месца — **Марта Добаш** і **Міхась Шаранос** — школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Трэцяя ўзроставая група: I месца — **Жанэта Роля** — школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім. II месца — **Марта Шыманюк** з Нараўкі і **Паўліна Пашко** з Ласінкі, III месца — **Анэта Яканюк** з Нарвы і **Кацярына Васілюк** з Орлі.

Апрача месцаў камісія прызнала вылучэнні, якія атрымалі вучні першых класаў: **Ілона Скепка** (Стары Корнін), **Юстына Асіпюк** (Нарва). **Віялета Выркоўская** (Ягуштова) і вучаніца 7 класа школы ў Рыбалах **Мар’я Паўлючук**.

У перапынках конкурсу, калі камісія выходзіла на нарады, праграму запаўнялі выступленні маладых артыстаў са школ гміны Нараўка. Усю праграму вялі вучаніцы нараўчанскай школы.

Лаўрэаты конкурсу атрымалі рэчавыя ўзнагароды, спонсарамі якіх былі БГКТ, войт гміны і гміна Нараўка.

Прыязджала я з Нараўкі ў такім добрым настроі, што хацелася спяваць. Веру, што пакуль у сэрцах маладых гучыць беларускасць, роднае слова перажыве вякі і перадасца з пакалення ў пакаленне. І няхай хтось неадукаваны кажа, што беларусы — гэта народ, які згубіў сваю культуру. Не паверу я ў гэта. Беларусы — вялікі народ, і культура яго — багатая.

**Наталля ГЕРАСІМЮК**

### *Каб збыўся сон*

— Часта мне сніцца, — кажа Коля, —
Што быў прафесарам у школе.
Ды што зрабіць, — пытае ён, —
Каб здзейсніцца мог гэты сон?

— Каб гэты сон табе мог збыцца,
Трэба, сыночак, больш вучыцца,
І больш, вядома, працаваць,
Затое меней трэба спаць.

**Віктар ШВЕД**

### *Лёўка купіў шнуроўкі*

Летняй парой прыехаў Лёўка
У магазіны гарадскія.
Просіць прадаць яму шнуроўкі,
Яго пытаюцца: — Якія?

Чамусьці гэтае пытанне
Незразумелае маломy.
Ён паясняць падняўся пані:
— Левую й правую, вядома.

**Віктар ШВЕД**

# І ў яго ёсць гнілое яблыка...

— Паэт не можа паўтараць піяніста, ён хоць праз адну хвіліну павінен стацца кампазітарам, стварыць новую музыку-паэзію, — сказаў белавежац Ян Чыквін, які ўдзельнічаў у сустрэчы ліцэістаў у Гайнаўцы.

Спатканне было наладжана 19 студзеня. З пісьменнікам сустрэліся выбраныя вучні першых, другіх і трэціх класаў. У паэзіі вельмі важная псіхіка чалавека, розум гэта схемы — не хоча перастаўляцца і паўтарае ўсё тое, што было. Таму сказаць нешта разумнае вельмі цяжка. Даўно адзін чалавек сказаў мне, што добрым пісьменнікам бывае чалавек нешчаслівы, які многа перажыў і бачыў. Аднак большасць піша пра тое, чаго не перажыла. Літаратары часта карыстаюцца не сваім вопытам, — сказаў Ян Чыквін. Паэт верыць, што павінен на свет глядзець дзіцячымі вачыма і ад пачатку захапляцца. Стварэнне вершаў прыносіць яму радасць, але гатовыя творы не задавальняюць аўтара. Напісаны верш становіцца чужым.

Нядаўна пачаў Ян Чыквін разам з сябрамі выдаваць штогоднік „Тэрмапілы”, першы нумар якога прысвечаны 40-годдзю аб’яднання „Белавежа”. Знаходзяцца там вершы і проза сучасных пісьменнікаў. „Белавежац” усведамляў моладзь, што некаторыя „зоркі беларускай паэзіі” падбадзёрвалі сябе алкаголем. Таксама хвароба дапамагала развіваццa таленту. Маладыя паэты выразна ўваходзілі ў літаратуру, але хутка паміралі. Прыкладам з’яўляецца Максім Багдановіч. Людзі замкнутыя ў сабе гэта больш патэнцыяльныя паэты. А кожны добры паэт з’яўляецца трохі эгаістам, патрабуе выдзялення свайго „я”. Некаторыя з аўтараў, каб лепш працавалася, маюць свае „куточкі працы” і рэчы, якія ім у гэтым дапамагаюць. Адны захапляюцца пахам гнілога яблыка, другія мочаць ногі ў вадзе...

Аднак галоўнае для паэта гэта яго псіхічны свет, самаўслухоўванне ў сябе і памяць, што жыцця адтэрмінаваць нельга.

**Аня САДОЎСКАЯ**

# Польска-беларуская крыжаванка № 6

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу 3 тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Lakier / Adres / Dramat | Kanion / Rynek | | Siłacz | | Baran |
| | | | | | | |
| | | | | | | |
| Źródło / Anioł | | | | | | |
| Kłamstwo / Rak | | | | | | |
| | | | Czyn | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 2**: Ром, гума, карагод, козыр, расада. Дакор, каза, рыс, гора, луг, мора, рад.

Узнагароды — **фламастэры** — выйгралі: **Каміля Карповіч** з Гарадка, **Пятрусь Янкоўскі** і **Марта Пацэвіч** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы”, або чакаць іх у сваёй школе.

Талон „Зоркі” № 6
07.02.1999

# Ёлка ў музеі

Вучні са школы н-р 2 паказваюць сцэнку „Бедны заяц".

Вучні з падставовых школ Гайнаўкі і іх сябры з Нарвы, якія вучацца беларускай мове, спаткаліся 21 студзеня г.г. у Беларускім музеі, каб разам са Святым Мікалаем пагуляць каля ёлкі, прадэкламаваць вершы, заспяваць песні і выступіць з тэатральнай сцэнкай.

Сандра Скепка — Баба-Яга.

Больш за сто пяцьдзесят вучняў, якія прыйшлі разам са сваімі апекунамі і настаўнікамі беларускай мовы, прывіталі гаспадары — Міхал Голуб і Наталля Герасімюк. Усіх запрасілі яны ў вялікую залу, дзе іграла ўжо музыка. Спадарыня Наталля Герасімюк, якая падрыхтавала ёлку, не дала многа часу на самастойныя гульні, хутка пачаліся конкурсы і спаборніцтвы з узнагародамі. Дзеткі з малодшых класаў адгадвалі загадкі. Неўзабаве пачалі лопаць шарыкі, у якіх былі картачкі з рознымі задачамі, а выконвалі іх ужо крыху старэйшыя сябры. Вучні прадстаўлялі розных звяроў, не называючы іх, скакалі ў мяшку, са скаканкамі і з завязанымі вачыма ўстаўлялі нос снежнай бабе. Арганізатары ўмела кіравалі змаганнямі, а ў час перапынку паміж спаборніцтвамі адразу заводзілі музыку і ўсе танцавалі.

Калі на сярэдзіну залы выйшлі вучні пятых класаў Падставовай школы н-р 2, каб паказаць сцэнку „Бедны заяц", усе аціхлі. Пераапранутыя за звяроў маладыя акцёры (Альжбета Ціханюк, Паўліна Целушэцкая, Магдаліна Вішнеўская, Мальвіна Лукша, Іаанна Дунай і апавядальнік Паўліна Васілюк) паказалі казку. Вельмі адважна выступілі маладыя сябры, другакласнікі і трэцякласнікі з Нарвы: Ала Міранчук, Іаанна Ніканові, Павел Шышкевіч, Юстына Астапкевіч, Паўліна Васілюк і Іаанна Зубрыцкая. Вучні з Падставовай школы н-р 6 паказалі дзве сцэнкі. Займальна выступілі трэцякласнікі (Сандра Скепка, Паўліна Ігнацюк, Наталля Вашчук, Лукаш Іванюк, Пётр Аўярчук, Анэта Сегень, Юліта Раманчук і Павел Галёнка). Дзеткі, шукаючы Дзеда Мароза, трапілі да Бабы-Ягі, але ўсё закончылася шчасліва. Спачатку атрымалі падарункі ад Бабы-Ягі, а пасля ад Дзеда Мароза, якога ўрэшце знайшлі. Іншыя вучні з гэтай школы (Паўліна Пашко, Юліта Галёнка, Паўліна Леанчук, Аня Божка і Аня Рыбінская) пазнаёмілі прысутных са сцэнкай, у якой Дзед, Бабка, Унучка, Жучка, Кошка і Мышка выцягвалі рэпку.

Гаспадары ў час перапынку запрасілі дзяцей у суседнюю залу, дзе чакалі фрукты, ласункі і напоі.

Вялікае зацікаўленне выклікала таксама спартакіяда. Групы вучняў перацягвалі канат, спаборнічалі на палавіках і надзімалі шарыкі. Наймалодшыя ігралі ў фігуры і змяю. Хаця Святы Мікалай з дзеткамі гуляў ад самага пачатку, з падарункамі паявіўся толькі на канец мерапрыемства. Зрабіў правільна, бо калі наймалодшыя атрымалі падарункі, ім не было ўжо да гульняў. Трэба было праверыць, ці сёлетні Мікалай такі ж шчодры, як леташні. Супольная ёлка для тых, якія вучацца беларускай мове, стала ўжо ў Гайнаўцы традыцыяй.

**Аляксей Мароз**

*Фота Яўгена Алексеюка*

Выступаюць дзеткі з Нарвы.

# Вясёлы куточак

— У якім класе ты будзеш вучыцца?

— У чацвёртым „б".

— Ты ж у мінулым годзе быў у чацвёртым!

— Тады я быў у чацвёртым „а".

* * *

Настаўнік:

— Дзе твой сшытак з хатнім заданнем?

Вучань:

— Мама забылася пакласці яго ў сумку.

— Чаму мама?

— У нас такі парадак: кожны скончыўшы работу, прыбірае сам за сабою.

* * *

— Ты зусім нічога не робіш! — кажа староста класа Уладзіку. Увесь час нечым заняты.

— Ну, сам бачыш, калі я заўсёды заняты, значыць, нешта раблю.

* * *

— Вы ведаеце, дзеці, што на холадзе ўсе прадметы змяншаюцца, а ў цяпле, наадварот, павялічваюцца, — тлумачыць настаўнік. — Хто з вас можна назваць прыклад?

— Летнія канікулы заўсёды даўжэйшыя за зімовыя.

* * *

Раніцою бабуля спытала ўнука:

— Чаму ж гэта ты з непамытымі нагамі ў ложак лёг?

— А я вечарам іх памыў!

— Чаму ж тады яны брудныя?

— А я ўсю ноч у сне па балотах хадзіў.

* * *

— Я бегаю, ты бегаеш, мы бегаем, яны бегаюць. Які гэта час?

— Перапынак!..

**Моніка Якімюк,
ПШ у Чыжах**

<u>Жывая кніга прыроды</u>

# Люты

Ідзе па зямлі Люты і пытае ў кожнага, ці добра адзеты і абуты.

Зайшоў у сяло, пастукаўся да дзеда з бабай:

— Іду лютаваць! Сумёты намятаць! Дарогі засыпаць, усіх у хату заганяць. Люты я! Пытаю, ці ўсе добра адзеты, абуты?

— Усе, усе! — адказвае дзед. — У мяне кажух ёсць і валёнкі. У маёй бабы таксама кажух, і валёнкі, і цёплая хустка. І авечкі, і карова ў цёплых хлявах. Хату прызбаю асыпаў, дроў назапасіў... Ідзі, лютуй!

Супакоіўся Люты і пайшоў у лес да лясных птушак і звяроў.

— О-го-го-го! — крычыць на ўвесь лес, аж рэха разлягаецца.

— Я лю-у-у-уты! Іду лютаваць! Сумёты намятаць! Дарогі засыпаць!

— А ў мяне цёплае дупло! Я накрыюся хвастом і буду спаць! Лютуй! — кажа вавёрачка.

— А я ў бярлозе лапу смакчу... — сапе скрозь сон мядзведзь. — Лютуй сабе!

— А я ў нару схаваюся! — махнуў рудым хвастом ліс.

— Я ямачку ў снезе зраблю! — сказаў заяц. — Я цяпер беленькі, і ніхто мяне не прыкмеціць.

— А я не баюся ні марозу, ні завеі, я ў цёплай камізэльцы! — ціўкнуў снягір.

— Я падамся да ч-ч-чалавечага прытулку-у! — застракатала сарока.

І ўсе звяры і птушкі пахаваліся. Хто ў нару, хто ў дупло, хто пад снег.

І што тут пачалося! Люты як падзьме — сумёты, як горы, вырастаюць. У маленькіх ялінак і сасонак толькі чубы з-пад снегу тырчаць. На рэчцы страляе лёд. А Люты лютуе. То маразам прыцісне, то завеяй у вочы сыпне.

Доўга лютаваў. Нарэшце стаміўся, лёг пад сасною адпачыць ды і заснуў. Спіць сабе Люты і не чуе бяды.

А сонейка выглянула з-за хмар, прыгрэла на сасне снег... І пачало з ледзяшоў капаць. Кап! Кап!

Выскачыла з дупла вавёрка і зацокала на ўвесь лес:

Спіць Люты! Спіць, не чуе,
Што вясна яму рыхтуе!

Выляцеў з дупла дзяцел і застукаў дзюбай: тэлеграму адбівае:

Спіць Люты! Спіць пад сас-ною,
А Са-ка-вік ужо за спі-ною!

А з ледзяшоў: кап! кап! кап!

Раптам — кап! — проста Лютаму на нос. Падхапіўся Люты, дзьмухнуў раз, другі завеяй, але сілы ўжо няма!

Чуе, Сакавік недалёка!

**Клаўдзія Каліна**

# Вечар калядак



*Выступае тэатральная група „Антракт”.*

15 студзеня г.г. у Бельскім доме культуры праходзіў вечар калядак, у якім прымалі ўдзел праваслаўныя і каталіцкія дзіцячыя і маладзёжныя калектывы ды хоры з Бельска-Падляшскага.

Сустрэча пачалася ад выступлення маладзёжнага духавога квартэта з Комплексу прафесійных школ н-р 1, над якім трымае патранат Дом культуры. Пасля калядкі заспявалі дзяўчаты з Мызычнай школы і затым на сцэну ўвайшла моладзь з калектыву „Дзіравы вігвам” — гаспадар мерапрыемства — якая павяла спатканне.

Сярод звыш чым дзесяці выканаўцаў праваслаўныя калядкі спявала моладзь з Прачысценскага і Уваскрасенскага прыходаў ды ўкраінскі калектыў „Ранок” і дзяўчаты з калектыву „Жуpавінка”, выступленне якіх вельмі спадабалася публіцы. Шчыра і займальна заспявалі яны дзве беларускія калядкі „Добры вечар усім вам” і „Ой, у Віфлееме сталася навіна”.

— Вечары калядак арганізуем у Доме культуры ўжо ад 1990 года. Спачатку ўсе каляднікі выступалі аднаго дня адразу пасля праваслаўных святаў, але калі ахвотных калядаваць стала вельмі многа, пачалі мы раздзяляць мерапрыемства на два дні, гэтак было і ў гэтым годзе. 10 студзеня спявалі калектывы і хоры дарослых, а сёння сабраліся калядаваць дзеці і моладзь, — кажа дырэктар БДК Сяргей Лукашук. — У час канцэрта дарослых спяваў я з „Маланкай”, а сёння выступае „Журавінка”, з якой працую ў школе н-р 3. Увогуле з вучнёўскімі калектывамі займаюся ў гэтай школе ўжо ад 1984 года. Спачатку быў калектыў „Нашы дзеці”, пасля „Жучкі”, бо былі там адны хлопцы — яны добра спявалі і гралі на інструментах. У 1993 годзе вучні прынялі названне „Журавінка” і так засталося да сёння. Калядкі падрыхтавалі яны спецыяльна на гэты вечар, бо звычайна перад школьнай ці гарадской публікай выконваюць эстрадную музыку.

Адрознівалася ад звычайнага калядавання выступленне тэатральнай групы „Антракт” з Бельскага дома культуры. Падрыхтавалі яны на беларускай мове сцэнку „Калядныя абрады”, якая спадабалася гледачам. Удзельнікі тэатральнай групы — вучні Падстававай школы н-р 3 — адкліkаліся да здарэнняў з сялянскага жыцця, высмейваючы дрэнныя прыкметы людскіх характараў. Можна было ўбачыць „бабу”, якая ў час Каляд заганяла мужыка да працы, іх жывёлу — непаслухмяную казу і лянівую кабылу, дрэннага гаспадара і хітрых цыганоў. Вучні выступалі як сапраўдныя акцёры. Відаць, што яны на сцэне не першы раз — вялі сябе вельмі адважна.

— Сцэнку апрацавала Альжбета Фіёнік. Спачатку хацелі мы хадзіць па хатах у Бельску і паказваць яе калядуючы, але з-за хваробы многіх асоб гэта не атрымалася, — кажа Жанэта Роля, якая памагала сваім малодшым сябрам рыхтавацца да выступленняў і разам з імі калядавала на сцэне. — Першы раз з групай „Антракт” выступалі мы ў час перадапошняга Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, а першымі пастаноўкамі былі „Прывітанне вясны” і „Жытняя талака”. Пасля выступалі са сцэнкай „Цар Ірад”. Са старэйшымі вучнямі рыхтуем зараз пастаноўку „Дзівосныя авантуры пана Кубліцкага ды Заблоцкага”.

Моладзь з БДК запрашала на сцэну чарговых каляднікаў, а на заканчэнне ўсе ўдзельнікі выйшлі да публікі і супольна развіталіся з бяльшчанамі.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Агляд у Кляшчэлях

Раённы агляд конкурсу „Беларуская песня ’99” у Кляшчэлях адбыўся 24 студзеня і прымалі ў ім удзел калектывы Гайнаўскага павета.

У катэгорыі аўтэнтычнага фальклору сярод салістаў пераможцамі сталі **Аляксандр Куптэль** і **Анна Якімюк** са Збуча (I), **Вольга Ахрымюк** з Чыжоў (II) і **Марыя Яканюк** з Курашава (III месца). У групе малых калектываў (дуэты, трыо і квартэты) I месца заваявалі **Арэшкі** з Арэшкава, II — **Каліна** з Дашоў, III — **Вульчанкі** з Вулькі-Тэрахоўскай, а вылучэнне атрымаў квартэт са Збуча. Калектыву **Збучанкі** з таго ж Збуча было прысвоена II месца.

У катэгорыі апрацаванага фальклору першае месца заваявала **Анна Карэтка** з Нарвы. У групе малых калектываў журы II месца прысвоіла дуэту **Ніны Грыгарук** і **Надзеі Гаўрылюк** з Курашава, а III — дуэту **Кацярыны Ціханюк** і **Ніны Хворась** са Збуча. У групе вакальных і вакальна-інструментальных калектываў пераможцамі сталі: жаночая група з Гайнаўскага дома культуры (I), **Чыжавяне** з Чыжоў (II) ды **Незабудкі** з Курашава і калектыў з Нараўкі (абодва — III месца). Сярод хораў першае месца заняла мужчынская група з Гайнаўскага дома культуры, а другое — мяшаны хор з гэтага ж ГДК.

Жанр сучаснай беларускай песні на цэнтральным аглядзе прадстаўляць будуць наступныя гайнаўскія салісты: **Ілона Карпюк** (I), **Аляксандра Мядзведзь** (II) і **Іаанна Масайла** (III месца). У гэтай жа катэгорыі ў групе калектываў на I месцы апынулася **Знічка**, а на III — **Банан** — абодва з гайнаўскага белліцэя.

**(яц)**

# Ёлка для наймалодшых

17 студзеня г.г. Брацтва праваслаўнай моладзі арганізавала ў Гайнаўцы ёлку для праваслаўных дзетак. На сустрэчу прыйшло больш чым сорак дзяцей, сярод якіх наймалодшаму было паўтары годзіка. Разам са сваімі малечамі прыйшлі і бацькі, і бабулі, і іншыя члены сем’яў.

Прысутных прывітаў апякун Брацтва праваслаўнай моладзі айцец Славамір Хвойка, які з задавальненнем успрыняў вяртанне да традыцыі „ёлкі для праваслаўных”, якую арганізавалі раней у Свята-Троіцкім саборы. Старшыня Брацтва Юліта Антыпюк коратка напомніла пра ход мерапрыемства, а вучні падставовых школ пачалі выконваць артыстычную частку. Спачатку малодшыя братчыкі спявалі калядкі, а дзяўчаткі дэкламавалі беларускія вершыкі звязаныя з Хрыстовым Нараджэннем. Пасля гарцэры са школы н-р 6 прадставілі гістарычныя падзеі ў Віфлееме ды спявалі калядкі.

Наймалодшыя, хаця і не вельмі разумелі ў чым справа, з зацікаўленнем пазіралі на дзве гвязды, якія час ад часу круціліся. Арганізатары прадбачылі таксама, што наймалодшым цяжка будзе доўга выседзець на адным месцы і пасля артыстычнай часткі хуценька рассунулі крэслы ды пачалі гульні і конкурсы з узнагародамі. Спачатку ўсе знаёміліся, пасля спявалі песні, танцавалі, гралі ў „павука” і з завязанымі вачыма шукалі сваіх бацькоў. Старэйшыя елі яблыкі завешаныя на нітцы і адгадвалі назвы жывёл. У тым часе падсілкоўваліся смачнымі ласункамі, фруктамі і напоямі. Калі нечакана ўвайшоў Святы Мікалай, усе дзеткі акружылі яго і пачалі чакаць падарункаў, які былі ў вялікім мяшку. Аднак Мікалай не спяшаўся, а хацеў яшчэ паразмаўляць з наймалодшымі. Трэба было прадэкламаваць вершыкі, заспяваць і нешта расказаць, а за гэтыя выступленні кожнае дзіця атрымала падарунак.

Дзякуючы фінансавай дапамозе Свята-Троіцкага прыхода і арганізацыйнай падтрымцы некаторых бацькоў мерапрыемства атрымалася добрым і арганізатары думаюць яго працягваць.

**(ам-з)**



*Калядавалі вучні з Брацтва праваслаўнай моладзі.* Фота Аляксея Мароза

# Новыя калядкі

Яшчэ перад святамі Раджджаства Хрыстовага выдавецтва „Братчык” з Гайнаўкі і Фонд развіцця праваслаўнай культуры ў Варшаве аб’явілі конкурсы на састаўленне праваслаўных калядак.

— Калі высветлілася, што абодва конкурсы аднолькавыя, дырэктар Фонду развіцця праваслаўнай культуры Васіль Піўнік аддаў патранат над конкурсам нам, — кажа галоўны рэдактар часопіса „Братчык” і кіраўнік аднайменнага выдавецтва Марк Якімюк. — Удзельнікі прыслалі нам дзесяць новых калядак і 12 студзеня 1999 года падчас сустрэчы ў Беластоку з айцом архімандрытам Гаўрылам аб’явілі мы рэзультаты конкурсу. Сярод пераможцаў апынулася спадарыня Ніна Панкевіч з Агароднічак, што каля Супрасля, якая склала калядкі на мясцовым беларускім дыялекце: „Ёлачка”, „З дальняго востока”, „Ціхая ноч” і „Белыя сняжынкі”. Вылучылі мы таксама Дароту Асмульскую з Міньцаў за калядку „Kolęda śniegiem przysypana” і Барбару Ліпінскую з Гайнаўкі за калядку „Горад Давіда”. Усе ўспамянутыя асобы атрымалі ўзнагароды і дыпломы, а прысутныя выслухалі дзве калядкі, да якіх музыку склаў ужо айцец Дзімітрый Ціханюк. Конкурс гэты думаем праводзіць і ў наступных гадах.

**(ам-з)**

# Філіп, наш чалавек

Філіп у пушчы нарадзіўся. Лес навучыў выжываць нашых людзей, бо звялося б такое племя даўно. Усё ж, наш Філіп, мову родную забыў, і матку ў лесе на смерць пакінуў. Стаў палякам больш польскім чым беластачане ўсе разам узятыя, але чалавекам з лесу астаўся да самае смерці. Не ў самоце кончыўся, бо не пакінулі яго дочкі і жонка-пакутніца, і на апошнім дыху папрасіў у іх даравання за ўсё. Асабліва ў Гені прасіў прабачэння. А можа так здавалася ёй, вар'ятцы, як яе ўсё жыццё называў тата.

А дочак Філіп меў дзве. Нарадзіла іх яму Ліза, з якой пазнаёміўся ў Беластоку. Дзяўчына-рэпатрыянтка паходзіла з-пад Ліды, стала была на працу ў партыі, апісаў на яе маёнтак бяздзетны дзядзька, чатыры гектары на добрым для будаўніцтва месцы. Філіп таксама не быў апошняя *партыя* для сужонства — працаваў у бяспецы. А трапіў туды, адбіўшыся з якога трампліна!

Я першы раз убачыў яго старэнькім сухенькім чалавекам з палачкай, у будынку Ваяводскага суда ў Беластоку. У судзе, як сказала мне пажылая пракуратарка, быў лаўнікам народным калісьці. Парадачны чалавек. Цяпер ён — міліцыйны пенсіянер. А справу афармляе, тут часта яго бачна — дачка ў яго шызафрэнічка, правы разам з зяцем ёй адабралі, каб дзяцей не змарнавала.

Калі ўбачыў яго Ян К. у сваіх дзвярах пасля больш за паўвеку, у першую хвіліну хацеў запрасіць — думаў, мо іегавіст, будзе з кім паразмаўляць адзінокаму старэчу. Але пачуўшы голас (незнаёмец шукаў тут дачку, якая скрывалася, як даказалі яму, у гэтым блёку), дык крыкнуў дрыжачым голасам: „Гэты ж ты, Філіп?! Ты нашых людзей-партызанаў фашыстым выдаваў! Двух братоў майго свата аддаў на смерць! Я цябе памятаю!" Філіп збялеў яшчэ больш і, хістаючыся, пасунуўся да дзвярэй ліфта.

Не аднаго выдаў нашага чалавека Філіп. А як гэта стала, што прыслужнік немцаў і паліцаяў ускочыў у службу народнай уладзе? Быў заўсёды з тымі, у каго было ружжо, хто меў уладу. У сорак чацвёртым, успамінае Ян К., Філіп дзесьці быў прапаў. Хадзіў з тварам абвязаным хусткай, быццам зуб яму балеў, усё ж яго пазнавалі. Потым чуў, што ў міліцыю пайшоў, адразу на нейкія курсы ў Грузію яго выслалі. Потым недзе ў Польшчы быў, а наканец засеў у Беластоку.

З таго часу не памятае яго Базыль Д., хоць былі равеснікамі; Базыль быў з тае моладзі, якая з лесу пайшла абараняць „уладу рабочых і сялян"; ягоны псеўданім Веслаў застаўся пры ім як імя, і дагэтуль старыя бяспечнікі-пенсіянеры, цяпер з паменшанымі пенсіямі, бо не з таго што трэба боку ваявалі, так яго называюць. Распытваў я яго пра Філіпа. Пазваніў Веслаў сваім калегам. Аказалася, Філіпа ў 1953 годзе, за здзекі над арыштаванымі і над сям'ёй перакінулі былі з „аперытыўнага" на „гаспадарчага". Маглі б зусім выкінуць, бо нешта страшнае зрабіў, але ж свой чалавек, заслужаны, а жонка працуе ў камітэце... Праўда, толькі сакратаркай, але ўсё ж, пры ўладзе. А што ён... тую жонку... забіў?!

Што людзі кажуць праз амаль паўстагоддзя пра тую справу, даведалася Геня ў 1995 годзе, калі ўцякаючы ад бацькі, паехала ў суседнюю з роднай бацьку вёску.

— То ты Дуніна ўнучка будзеш? — запытала ў яе Надзея М., родам з тае вёскі. — То гэта тваю матку бацька замардаваў, разбіў ботам жывот, забіў плод! Не вызваў скорай дапамогі, так яна і кончылася. А Дуні, маткі сваёй, бабы тваёй, Геня, то ведаеш яе пазбыўся? Прыехаў, забіў дзверы і вокны дошкамі, і паехаў. Як мы яе знайшлі, не жыла ўжо. А што ў тваё сястры чуваць?

Геня збялела. Успомніўся ёй дзень пахавання маці. Ляжала яна, 32-гадовая, у багата аздобленай труне, а пад бокам у яе — маленькі скрутачак без твару — ейны пяцімесячны сынок. А праз тры дні бацька шасцігадовую Яўгенію і пяцігадовую Ліду завёз у дзетдом па вуліцы Слонімскай. Праз тры месяцы ажаніўся з Зосяй з Б., вельмі добрай, ужо немаладой кабетай. Праз нейкі час даведалася яна, што муж адрокся дзвюх маленькіх дочак, і прымусіла яго забраць іх дадому. Была для Гені і Ліды як родная маці. Нарадзіла і сваю дачушку, але тая, пажыўшы месяц, памерла.

Зося мела сваю кватэру ў Беластоку. Распрадаў Філіп маёнтак нябожчыцы; астаўся дом з невялікім пляцам — спадчына дочак. Але да канца пра тое крычаў: „Гэта маё!!!"

Не скажа больш ні слова пра сваё пакутнае жыццё Зося, памерла і яна, пахаваўшы Філіпа. Але паспеў ён адціснуць свой гаспадарскі след і на ёй, і на жыццё дочак.

Ліда ўцякла з дому першая, скончыўшы студыум, з'ехала аж на Шлёнск. Не прыязджала б увогуле, калі б не маці. А Геня, якая сярэднюю школу закончыла на выдатна, не змагла пайсці сваёй дарогай, як марыла. Хацела здаваць ва універсітэт — бацька ў злосці парваў ёй матуральнае пасведчанне. „Вон на работу, хопіць мой хлеб есці! Ты такое ж смецце, як і твая матка была!"

Пайшла Геня ў пякарню. Азваліся ў душы ўспаміны, як бацька палохаў яе і Ліду пісталетам, як яны сядзелі ў нужніку ўсю ноч, а пабітая мачаха не магла ім памагчы...

— Мама, ратуй, у мяне штосьці з галавой робіцца... Вязі мяне ў бальніцу, — прытуліласся да мачахі дваццацігадовая падчарка. У Харошчы дыягназавалі: дэпрэсія. Праз два месяцы вярнулася ў сваю пякарню. Выйшла замуж, нарадзіла двое дзяцей. Праз дваццаць гадоў ад яе пабыўкі ў псіхбальніцы бацька з зяцем з моцай суда давялі да таго, што адабраны ёй былі ўсе правы. Да дзяцей, да ўласнае волі. Без псіхіятрычных даследаванняў, без прысутнасці на справах самое „гераіні". Цікава і страшна. Каб даказаць, ці хворая яна цяпер, давялося па-знаёмству трапіць зноў у бальніцу. Па-знаёмству, бо папасці там от так сабе — немагчыма. Трэба мець адпаведны дыягназ. III група інваліднасці, якую мела Яўгенія ў сорак гадоў — яшчэ не падстава, каб ісці ў Харошчу паляжаць сабе ў клініцы неўроз. Пазней справу павялі не „старыя" пракуратары і паліцыянты. Хопіць сказаць, што дзеці Яўгеніі — не ў дзетдоме сёння, куды іх былі адправілі дзед з бацькам, які сам зрокся быў да іх правоў, муж — мужам, жывуць яны добра, хоць Весё час ад часу папівае. Гэта ж нармальна, як сказала куратарка Ф., а яна не адно бачыла ў сваім жыцці, пасівеўшы на гэтай працы. Дзеці тады пакідаюць усюды картачкі: „Tato, nie pij!". Яны і дзедку хочуць добра ўспамінаць, як ім у дзетдом прыносіў ласункі. Казаў: „Тату слухайце, тата ў вас добры, добра што вас забраў ад маткі і тут памясціў. Тата — добры і разумны, а матка ваша — вар'ятка. У каго яна ўдалася?!"

**Лукаш Баравіцкі**

*(Некаторыя імёны зменены)*

**Якія мы людзі**

# Пагаварыла

## або Прыгажосць і праўда

Кажуць, няма нічога больш істотнага ў жыцці, чым прыгажосць і праўда. У дзіцяці гэтыя два фактары як бы спалучаюцца ў адно.

* * *

Малую дзяўчынку вазілі да няньки. Вазілі штодзённа раніцай і забіралі пасля працы. Шчыра гаворачы, не была гэта тыповая нянька. Грошы ёй не былі патрэбныя: і так не давала ёй спакою думка пра тое, каму пакінуць усё, што яна мае, каму запісаць вялікую кватэру, самаход ды рахункі ў двух банках, адкрытыя пасля працы за граніцай.

Але была гэта жанчына з вёскі, працавітая. Пакуль чалавек жыве — павінен працаваць, лічыла яна. А пакуль працуе — то жыве. І згадзілася яна даглядаць гэту малую.

Бог не даў ёй сваіх дзяцей, ды і муж памёр малады. Дык, хаця жыла яна, быццам пані, нечага ў жыцці ёй не хапала. А як шчымела ў яе сэрца, калі бачыла на панадворку гуляючых, вясёлых таўсцячкоў. Тады гатова была схапіць аднаго з іх, прытуліць да сябе і выцалаваць... Але гэта былі толькі мары. Хто ж бы дазволіў на такое... Каб чужая, незнаёмая цётка туліла да сябе ягонае дзіця. Жанчына была рэалісткай і вельмі добра разумела гэта.

Свет, аднак, не без добрых людзей. Яе малодшая сястра, калі зацяжарыла шосты раз, так і сказала: гэта дзіця нараджу табе я! А як сказала, так і зрабіла. І нарадзілася дзяўчынка для бяздзетнай жанчыны. Прывезлі Волечку з вёскі ў горад, да цёткі, калі было ёй паўгодзіка.

Жыццё самотнай дагэтуль кабеты напоўнілася штодзённымі клопатамі і абавязкамі, а адначасова мілым дзіцячым шчабятаннем, сярод якога яна неўзабаве выпучыла доўгачаканае слова „мама".

Мама! Жанчына не магла знайсці сабе месца ад радасці. Дзялілася гэтым з усімі знаёмымі, суседзямі, а нават з незнаёмымі людзьмі з лавачкі ў парку. Ад гэтага часу гаварыла, што гэта яе дачушка, дык мала хто і ведаў, што гэта ўсяго толькі выхаванка.

Дзяўчынка расла вясёлая і здаровенькая, і сэрца кабеты напаўнялася радасцю, калі думала яна, што во і яе лёс узнагародзіў, даўшы ёй такое дзіцятка. Памылялася яна, аднак, мяркуючы, што бацькі ад яе цалкам адмовіліся.

А што? — пацяшала яна сябе, калі дзяўчынка стала называць „мамай" сваю родную маці. Гэта ж яе, маёй сястры, права! Яна ж нарадзілася яе... А ўсё роўна не тая маці, што нарадзіла, а тая, што выхавала — ізноў давала яна апраўданне сваім надзеям. Будзе да каго на старасць прыгарнуцца.

Жанчына зайздросным вокам спаглядала на дачушку, якая ахвоча ўлазіла на калені да сваёй другой мамы, а нават і таты, але надалей часта ездзіла з малой на вёску, да сваіх.

Калі Волька пайшла ў школу, пачала разумець намнога больш. Зразумела, напрыклад, што яна жыве ў цёткі, хаця называе яе мамай і што ў горадзе ёй лепш. Ніколі не хацела застацца з роднымі бацькамі на вёсцы, хіба што крыху на канікулах. Заўсёды рвалася ў горад. Там было ёй лепш, цікавей. Цётка на ўсё дазваляла, лічылася з кожнай яе просьбай, купляла ўсё, што толькі дзяўчынка хацела. Не адважылася ні ў чым ёй адмовіць, бо баялася страціць дзіця.

А дзіця расло і ў дзесяць гадоў пачало маляваццa. А вазьмі ж ты і спрабуй нешта забараніць! Вучыцца не хацелася, часта яна выходзіла з дому, быццам у школу, але на ўрокі не ішла. Ніякіх зацікаўленняў! Пачала затое цікавіцца наркотыкамі. А што было рабіць у парку на лаўцы?! Бацькі паблізу не было, каб налупцаваў ад часу да часу, а цётка б яе ні за што не кранула, бо дзяўчынка зараз жа паехала б на скаргу да бацькоў. Зрэшты, жанчына ўжо і так зламала рукі.

І тады яе кватарантка параіла ёй запекавацца малой дачушкай сваёй сяброўкі, якою не было каму заняцца, калі бацькі ішлі на работу.

Доўга думала жанчына, ці браць на сябе такі абавязак. Меркавала і так, і гэтак, але як толькі ўявіла сабе, што ізноў у гэтай хаце паявіцца шчырае, аддане паўгадовае стварэнне (не ведала ўжо, калі Волька маніць, а калі гаворыць праўду), сказала: так!

Разумела, што гэта толькі ілюзія, але была ўпэўнена, што хоць на тых шэсць гадзін гэтая дзяўчынка будзе яе. Дачушка ж, якой аддала палову свайго сэрца, аддалялася ад яе з дня на дзень. Было балюча, калі сястра мела да яе прэтэнзіі, што замала ўвагі прысвячае яе дзіцяці (малая скардзілася — бацькі тады кампенсавалі ёй маральныя страты грашыма). Бо вось яшчэ ўчора Волька гаварыла ёй, што толькі яе кахае, а родныя бацькі адносяцца да яе, быццам мачыха.

* * *

Калі малую дзяўчынку прыносілі да няньки, на размовы часу не было. Аднак, калі яе забіралі, няньчына дачка Волька падыходзіла да маці тае дзяўчынкі і, гледзячы ёй проста ў вочы, казала: „Проша пані, я так кахаю вашу дачушку, так кахаю! Вы нават не ўяўляеце сабе, як моцна!" Так казала дванаццацігодка, а маці малой дзяўчынкі ёй верыла. Ну, бо як жа не верыць дзіцяці, чыстаму, неспакушанаму, прыгожаму... Тым больш, што іхняя маленькая расла, быццам на дражджах. У паўтара годзіка амаль усё ўжо, хаця па-свойму, гаварыла.

Калісь, седзячы на дыване, малютка асвойвала новую лялку. Мама яе шыла, седзячы на крэсле, а дачушка гуляла перад ёю. Лялька была не звычайная: яна адчыняла і зачыняла вочы. Калі дзяўчынка клала яе, вочы лялькі былі заплюшчаны. Яна калупалася ў іх, стараючыся адчыніць. „А ты пасадзі ляльку! — сказала мама. — Тады яна адчыніць вочкі, бо цяпер то яна спіць!"

Дзяўчынка пасадзіла ляльку — і яе вочы адчыніліся. „Ну, а цяпер пагавары з лялькай", — сказала мама. Дачушка глянула на яе сваімі вялізнымі шэрымі вачыма, але чамусьці маўчала. „Ну, пагавары з ёю так, як Волечка з табою размаўляе", — заахвочвала мама малую. Волечкай ласкава называла яе мама няньчыну дачку, хаця ўсе называлі яе Волька.

І раптам на дзіцячым тварыку дачушкі яна заўважыла метамарфозу. Ён спахмурнеў, а ўся постаць малой прыняла паставу каршуна, павісшага над лялькай. „Ну, **таго** (яна не вымаўляла „чаго") хочаш? — сказала малая. — **Таго** вочы вылупіла? **Хоташ** (замест „хочаш") па мордзе? То зараз дам!"

Малая выкінула з сябе цэлую Волеччыну тыраду, накіраваную ў яе адрас, і трыумфальна глянула на маму. Усё зрабіла так, як мама прасіла. Пагаварыла так, як гаварыла з ёю Волька.

А мама яе не ведала, смяяцца ці перажываць. Дагэтуль прыгажосць і праўда асацыіраваліся ў яе ўяўленні перш за ўсё з дзецьмі.

* * *

Вольку неўзабаве цётка аддала бацькам. Не вытрымала. **Ада Чачуга**

# Дзеля новага смаку

[1 ☞ працяг]

— Так. З Гайнаўкі вазілі сваім аўтобусам, а з Бельска „Жуком". Пераходзім аднак на мясцовых людзей, вучым іх — яны больш звязаны з нашай ваколіцай, больш *дыспазіцыйныя*. Да таго ж людзі, якія працавалі ў тых ПССах, мелі свае старыя нядобрыя прывычкі.

***— Здзівіла мяне, што вам не хапала збожжа: вы ж байкавата абсейвалі...***

— Мы збіралі толькі палову патрэбнага нам збожжа, а другую палову куплялі ў навакольных сялян. Стараемся быць іх пастаянным партнёрам; купляем ад іх, калі нават маем дастаткова збожжа, ці можам купіць ад нейкага пастаўшчыка па выгаднейшай цане. Найбольш купляем ад гаспадароў з Чыжоўскай гміны, ну і з нашай, Нарваўскай. Купляем не толькі збожжа, але і жывёлу: свіней, кароў.

***— Ну, добра, вам удалося; а чаму не ўдалося другім каапературам — у Васьках, Крыўцы?..***

— У іх была менш рэнтабельная прадукцыя. Напрыклад, у Крыўцы былі раней і добрыя гаспадары, і іх прадукцыя была высокаэфектыўная. Але, на няшчасце, яны мелі малочнае быдла, а прадукцыя малака была доўгі час нерэнтабельнай. Індывідуальны гаспадар мусіў яго трымаць, бо было яно галоўнай крыніцай яго ўтрымання, аднак не разжываўся на ім. І вось у Крыўцы таксама хапала грошай толькі на экзістэнцыю, а не хапала на інвестыцыі ці змену профілю прадукцыі. Некаторыя гаспадаркі трапілі ў пастку Бальцаровіча; вялі інвестыцыі, на якія не мелі грошай, мусілі браць высокапрацэнтаваныя крэдыты, якіх пасля не маглі сплаціць. Некаторыя зноў не інвеставалі, толькі раздалі грошы людзям. А вось мы інвеставалі і гэта нам дало магчымасці развіцця.

***— Вы абрабляеце шмат зямлі; гэта зямля ваша ці арандаваная?***

— З гэтым у нас вялікая праблема, не толькі ў Макаўцы, але і ў гаспадарках, якія мы пераналі: у Крыўцы, Васьках, Кленіках і часткі Новаберазова; дзве апошнія, гэта былыя ПГРы. Постпэгээраўскай зямлі арандуем каля тысячы гектараў. Падалі мы заяву на куплю гэтай зямлі, аднак Агенцтва сельскагаспадарчай уласнасці казны не вельмі хоча нам яе прадаць. Не рыхтуюць дакументаў да натарыяльнага продажу, бо мы плацім ім немалую арэнду; навошта тады ім пазбывацца дармовых грошай.

***— Такую палітыку вядзе Варшава, ці можа дзе бліжэй?***

— Мы належым да Сувалак; магчыма, што яны завалены работай, бо ў нашым рэгіёне вельмі многа ПГРаў. Праблема прыватызацыі зямлі вельмі абшырная і Агенцтву можа яна быць не пад сілу.

***— Уся зямля, якую вы абрабляеце, арандаваная?***

— Уласнае маем усяго толькі каля сямісот гектараў, а арандаванай — каля тысячы дзевяцьсот...

***— Чым вы яе абрабляеце і абсяваеце?***

— Стараемся купляць наймагутнейшыя машыны: купілі два нямецкія збожжавыя камбайны „Claas"; такі камбайн у чатыры разы магутнейшы за „Бізон"; збіраем купіць яшчэ адзін такі — гэта эканоміць нам і людзей. У нас у полі адзін чалавек абрабляе 120 гектараў. Маем 25 трактароў, 15 самаходаў, якія возяць нашу прадукцыю ці прывозяць патрэбныя нам матэрыялы, напр. паліва. Абворваем каля 1600 гектараў зямлі. Збіраем 4,5 тысячы тон збожжа: пшаніцы, пшанжыта, ячменю — галоўным чынам у Чыжоўскай гміне. Сеем многа жыта, бо нашы землі тут — слабыя. Усё збожжа расходуем на свае патрэбы: наша мяшальня прадукуе 6 тысяч тон камбікармоў, якімі кормім нашу жывёлу. У мінулым годзе мы выпрадукавалі 1400 тон свініны, 85 тон ялавічыны, 1000 тон кураціны. Гадуем таксама гусей — у гэтым годзе плануем 17 тысяч. Ну і адной з галоўных галін нашай прадукцыі з'яўляюцца яйкі: у мінулым годзе мы паставілі дзевяць мільёнаў штук. Галоўнымі напрамкамі паставак нашай прадукцыі з'яўляюцца Гайнаўка, Бельск і Беласток; намерваемся таксама прапанаваць нашы вырабы ў Сувалкі, Элк і Гіжыцка.



Віктар Рэент.

***— Адкуль бярэце курыны маладняк?***

— Аднадзённых куранятак прывозім з Румі каля Гдыні і з Цеханава.

***— А гэтыя дзевяць мільёнаў яек вы прадалі тут, ці вазілі дзе далей?***

— Калі справа ў яйках, то паўстаюць западзіны, калі яйкі не *ідуць*. Такая сітуацыя ўзнікае ў нас у маі—чэрвені. Людзі пад Вялікдзень колюць і пасля спажываюць мяса, не патрабуюць яек; да таго ж пачынаюць несціся канкурэнтныя нам „вясковыя" куры. У нас тады паўстаюць аграмадныя запасы і, каб яны не змарнаваліся, мы вымушаны вазіць іх у парашкоўню, адну ў краіне, у Зялёнагурскім ваяводстве, і прадаваць па вельмі нізкай цане.

***— А гусі?***

— Стараемся каб гусі, так як іх натура прышыкавала, самі скублі траву. Маем для гэтай мэты адпаведныя пашы. Гусей трэба яшчэ падкормліваць, каб набралі вагі. Усю прадукцыю купляе ў нас Птушкаперапрацоўчы завод у Сувалках, які гусяціну прадае ў ФРГ.

***— А што з пер'ем?***

— Да 1985 года мы скублі, але пасля паявілася штучнае пер'е, неалергеннае, гусінае патанела і нам яно перастала аплачвацца.

***— То вы прадаяце гусей з пер'ем?***

— Гусі губяць пер'е на пашы; пасля сезона нашы гусіныя лугі — белыя.

***— Ну а як забяспечваеце сябе ялавічынай?***

— Скупляем з нашай ваколіцы цялят; сёння адхоўваем 450 штук, пасля адкормліваем на патрэбы нашай масарні. Гэта забяспечвае нам 25% нашых патрэб. Апошнее быдла купляем у сялян.

Са свінямі ў нас іншая сітуацыя: тут комплексная прадукцыя, пачынаючы ад свінаматак. Дабіліся мы задавальняючай эфектыўнасці, вось адну хлеўню на 1500 штук абслугоўвае толькі адзін чалавек.

Дарэчы, чалавек у цяперашніх умовах становіцца вельмі дарагім — вельмі многа каштуе страхоўка і ўтрыманне. Мусім плаціць 48% ЗУСу, плацім VAT, падатак ад зарплат, падатак за паслугі. Мусім весці бухгалтэрыю. Працуе ў нас 350 чалавек, з якіх 250 з'яўляюцца членамі нашага каапаратыва — пайшчыкамі, а апошнія — наёмныя.

***— Ці ладзіце кантакты з замежжам?***

— Маем спадзяванне, што ўдасца наладзіць супрацоўніцтва з беларускімі фірмамі. Да 1995 года куплялі мы ў іх сельскагаспадарчыя машыны, а прадавалі ім кансервы і іншыя прадукты. У 1995 годзе спынілася гэта, не ўдалося знайсці партнёра. З-за налогаў на польскую прадукцыю нашы вырабы сталі неканкурэнтаздольнымі.

***— А ад іх нічога не прывозіце? Калісь беластоцкі мясакамбінат сабе прывозіў...***

— Гэта было толькі быдла з Літвы. На Беларусі заўсёды нешта выдумаюць, каб не аплачвалася.

***— Ну а з іншымі краінамі?***

— Думаем ладзіць супрацоўніцтва з Літвою; магчымасці ёсць: там не ідуць даражэйшыя прадукты, напр. палядвіца, бачок, а ёсць попыт на таннейшыя вырабы, якія мы можам ім пастаўляць, ці напр. кансервы, якія яны хочуць прадаваць далей, у Расею. Прабуем наладзіць супрацоўніцтва з Украінай: маем на ўвазе некалькі фірм, якія хочуць прадаваць збожжа ў Польшчу.

У мінулым годзе мы мадэрнізавалі нашу мясную прадукцыю з думкай продажу яе на Усход. У чэрвені і ліпені мы высылалі ўжо, галоўным чынам у Маскву, па 250 тон вяндлін у месяц, у большасці былі гэта сасіскі. У выніку расейскага эканамічнага крызісу, які ўспыхнуў у жніўні, рубель вельмі хутка пачаў траціць вартасць, а цэны на прадукты раслі там павальней; такім чынам трацілі мы грашовую выручку за нашы вяндліны. Дзяржавы Еўрапейскага Саюза плацілі сваім вытворцам мясапрадуктаў датацыю і цэны іх мала адрозніваліся ад цэнаў расейскіх вытворцаў. Мы, без датацый, вымушаны былі прыпыніць экспарт у Расею з пятнаццаці аўтафураў у месяц да трох-чатырох. Інтэнсіфікавалі мы маркетынг на польскім рынку і ўдалося нам павялічыць тут продаж (м.інш. у Вроцлаў і Гожуў-Велькапольскі) з шасці тон на восем (у Расею вазілі мы па пятнаццаць тон). У выніку расейскага крызісу наша мясапрадукцыя скарацілася восенню на нейкія сорак працэнтаў.

***— Можа, на заканчэнне, яшчэ пару слоў пра агульныя планы на будучыню.***

— Найгоршае маем за сабою, перспектывы на будучыню ёсць; каб толькі эканамічныя ўмовы былі аднолькавыя для ўсіх. Наша сістэма працы пастаянна мадэрнізуецца, маем маладых людзей, якіх няспынна вучым.

Наш кааператыў удзельнічае ў распрацоўцы плана развіцця птушкагадоўлі ў ваяводстве. Хочам пашыраць гадоўлю індыкаў і перараблядь іх у нас. Таксама думаем пабудаваць ачышчальню сцёкаў; ёсць фонды, дзе можна гэту справу варушыць.

***— Гміна крыху пабойвалася гэтай ачышчальні...***

— Новыя ўлады гміны станоўча ставяцца да гэтай справы, хаця маюць процьму праблем з дарогамі і з другімі не менш важнымі праблемамі.

***— Хто з'яўляецца вашым тут найбольшым канкурэнтам?***

— Ну — беластоцкі мясакамбінат. Ён самы канкурэнтны не толькі для нас, але і для другіх вытворцаў мясных прадуктаў: вялікіх і абсталяваных навейшай тэхнікай. Беластоцкі завод пачаў мадэрнізацыю тады, калі мы толькі пачыналі думаць пра вытворчасць; мы яго мусім даганяць. Да таго ж яны ад многіх гадоў маюць добрую марку ў спажыўцоў. І мы вядзем прамоцыю, каб пераконваць людзей да нашых вырабаў, каб яны прыйшлі і папрабавалі. Бо калі пакаштуюць, тады ўжо могуць сказаць, што нашы вырабы не горшыя. На апошнім прадуктовым кірмашы здабылі мы тры ўзнагароды. Атрымалі таксама вылучэнне Беластоцкага радыё. Паволі прабіваемся са сваёй маркай.

***— Які асартымент вашых вырабаў?***

— Прадукуем 80 відаў мясных вырабаў. Асартымент традыцыйны: усе вяндліны, усе каўбасы. Апрача таго прапануем печанае: стараемся адыходзіць ад вэнджання, бо кліенту за столькі гадоў вэнджанае магло абрыднуць. Купілі спецыяльныя печы і гэты печаныя вырабы даволі добра прымаюцца; яны крыху даражэйшыя, але менавіта многія купляюць гэта дзеля новага смаку.

***— Дзе маеце свае крамы?***

— Пяць у Гайнаўцы, чатыры ў Беластоку, дзве ў Бельску і адну ў Нарве.

***— Я бачыў вашу фірму ў спіску спонсараў гайнаўскага Фестывалю царкоўнай музыкі. Ці падтрымоўваеце другія мерапрыемствы?***

— Мы з'яўляемся даволі вялікай фірмай у беларускім асяроддзі, а арганізатары беларускіх культурных мерапрыемстваў не вельмі маюць да каго звяртацца, таму і спансаруем такія імпрэзы, як спомнены Фестываль, Дні Бельска ці фэсты.

***— Дзякую за размову і жадаю далейшых поспехаў.***

*Фота аўтара*

# Тайна янтарнага пакоя

Пад такім загалоўкам наша тэлебачанне 25 снежня 1998 г. паказала фільм, нават цікавы, але была гэта старая гісторыя і байка, якую мы сто разоў чулі і чыталі ў розных часопісах. Мне там усё даўно вядомае, а сам фільм нейкі смешны, бо як верыць асобам выступаючым у фільме, тыя, хто празмерна цікавіцца янтарным пакоем, хутка паўміраюць. У такія байкі я не веру. Цікава толькі, што ў свеце поўна сучасная тэхнікі, а янтарнага пакоя ніяк адшукаць не могуць. А вось я, просты чалавек, магу сказаць праўду пра гэты пакой. На гэтую тэму ёсць тры меркаванні. Першае: калі саветы вызвалілі Кёнігсберг у 1945 годзе, дык п'яныя байцы, калі ўварваліся ў правае крыло палаца прускіх князёў, дзе былі складзены скрыні з янтарным пакоем, тыя скрыні спалілі. Бо яны, як дзікае быдла, у каштоўнасці скарбу нічога не разбіраліся, а, як самі ведаем, цуды ўсялякія вычваралі на нямецкай зямлі. А Сталін мог і не ведаць, што яны з пакоем зрабілі, бо не пра ўсё яму дакладвалі.

Другое: гэты скарб маглі знішчыць гітлераўцы, каб не папаў у рукі пераможцаў. Але гэта мала праўдападобнае, бо янтарны пакой вырабілі немцы, а яны шанавалі працу сваіх майстроў; інакш чым рускія, якія пасля рэвалюцыі знішчылі свае найлепшыя скарбы, у іх ліку і Храм Хрыста Збавіцеля...

Трэцяе, найбольш верагоднае: янтарны пакой знаходзіцца на тэрыторыі ЗША ў нейкага мільярдэра (і напэўна так ёсць) і схаваны пад сямю замкамі ды чакае свайго часу. Якім чынам амерыканцы здабылі гэты скарб — толькі адны яны ведаюць. Бо найбольш каштоўныя вырабы сакральнага мастацтва чамусьці толькі ў Амерыцы знаходзяць сабе „спакойнае" месца. І то ўсё.

**Мікалай Панфілюк**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 807. Мар'я Данілецкая (Гайнаўка) ........ 20,00 зл.
4 808. Ян Ляшчук (Гайнаўка) ........ 10,00 зл.
4 809. Галена Ігнацюк (Гайнаўка) ........ 10,00 зл.
4 810. Ілья Агіевіч (Орля) ........ 50,00 зл.
4 811. Францішак Берніковіч (Гіжыцка) ........ 10,00 зл.
4 812. Павел Алексяюк (Гайнаўка) ........ 20,00 зл.
4 813. Васіль Сакоўскі (Гайнаўка) ........ 20,00 зл.
4 814. Юры Панасюк (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 815. Мікалай Пракапюк (Сямятычы) ........ 50,00 зл.
4 816. Уладзімір Ліцкевіч (Белавежа) ........ 30,00 зл.
4 817. Вольга Рыгаровіч (Гайнаўка) ........ 20,00 зл.
4 818. Вольга Блізнюк (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 819. Юльян Казбярук (Гайнаўка) ........ 10,00 зл.
4 820. Нэля Шчука (Гайнаўка) ........ 30,00 зл.
4 821. Натарыяльная канцылярыя Сцяпана Васілюка ў Гайнаўцы ........ 500,00 зл.
4 822. Анатоль Ахрыцюк (Гайнаўка) ........ 42,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.

# Пад развагу гайнаўскім радным

Тапіла — гэта невялічкая вёсачка, якая знаходзіцца непадалёк Арэшкава, у семнаццаці кіламетрах ад горада Гайнаўкі. Жыхары ў пераважнай большасці пенсіянеры. Амаль ўсё жыццё звязвалі яны з пушчай. Лес іх карміў, даваў працу, а маці-натура абдарыла гэту мясціну прыгажосцю.

Раней у вёсцы бурліла жыццё. Працавала крама і курсіраваў аўтобус. У апошніх гадах усё перамянілася. Ліквідавалася вясковая крама, перапыніўся аўтамабільны транспарт. Каб купіць бохан хлеба, трэба ехаць у горад. А як дабрацца?

— Калі дзеці даязджалі ў Гайнаўку і куплялі месячныя білеты, — кажуць жыхары вёскі, — для ПКСу алачвалася пускаць аўтобус. Зараз вучняў возяць гмінным транспартам. Аўтобусы ПКСу сталі нерэнтэбельнымі. Бельскі дырэктар зачыніў лінію.

Тапілаўцы неаднойчы звярталіся за дапамогай у гэтай справе да кампетэнтных чыноўнікаў дзяржаўнай адміністрацыі. Без рэзультату! Дырэктар Бельскага ПКСу няўмольны. Трымаецца прынцыпаў рынычнай эканоміі. Мясцоваму самаўраду таксама галава не баліць за лёс тапілаўскіх старэчаў.

А ці так быць павінна?

На маю думку, перш за ўсё, справай павінен заняцца Гайнаўскі самаўрад, бо гэта ж яго падаткаплацельшчыкі. Хапіла б адвесці з гміннага бюджэту невялікія грошы на датацыю для ПКСу і праблема вырашылася б. Ды і дырэктар у Бельску-Падляшскім павінен даць нейкія льготы тапілаўскім пенсіянерам. Мы ж з'яўляемся хрысціянскім народам і павінны сабе ўзаемна дапамагаць.

А ў адрас гайнаўскіх купцоў накіроўваю прапанову: завітайце хоць два разы ў тыдзень у Тапіла з аб'язной крамай. Старэчы будуць гэтаму рады ды і вам, даражэнькія, нейкі грош у касу трапіць. Разважце тады мае прапановы, спадары радныя ў Гайнаўцы. Не пакідайце вёску самую сабе!

**Уладзімір Сідарук**

# Напішаш пяром...

**Адгалоскі**

Прачытаў я допіс Мікалая Лук'янюка „Рак палез уперад" і валасы мне падняліся на галаве. Няўжо гэта праўда, што М. Панфілюк так лёгка мяняе свае погляды, што раз кагосьці лае, а потым аблаянага хваліць?

З Мікалаем Панфілюком я знаёмы даволі даўно. Разам мы былі ў авангардзе „Нівы". Актыўна супрацоўнічалі і распаўсюджвалі свой часопіс. Я лічыў Панфілюка сваім верным сябрам і сапраўдным беларусам. Няўжо памыляўся? Праўда, у шасцідзесятых гадах меў я прычыну для задумы над асобай свайго дубіцкага калегі-карэспандэнта (ён, пэўна, памятае маленькі інцыдэнт, які нас пасварыў), ды пасля ўсё вярнулася ў норму.

На маю думку, трэба заўсёды моцна задумацца, пакуль нешта рашыць або напісаць. Прымаўка кажа: „Напішаш пяром, не вырубаеш тапаром". У кожнага з нас неаднойчы з'яўляюцца хістанні і пытанні: як паступаць, якую дарогу выбраць? І разважлівы чалавек робіць разважны крок. Я таксама быў на раздарожжы ў васьмідзесятых гадах. У дзевяностых стаў салідарнікам. Не скрываю гэтага і не сорамна мне за свае паступкі. Бо я заўсёды ішоў адным шляхам — дарогай праўды. За гэтую ж праўду зненавідзелі мяне калегі па прафсаюзнай дзейнасці (салідарнікі, значыцца) і сказалі: „Вон, такіх нам не трэба". Я надалей застаўся верным сваёй „Ніве". І цешуся вельмі, што мае калегі-журналісты лічаць мяне сваім сябрам.

**Уладзімір Сідарук**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Цікавы сон мне прысніўся, Астроне. Быццам бы знаходжуся я ў вялікім, двухпавярховым драўляным доме, у якім калісьці жыла мая бабка. Дом гарадскі, не вясковы.

Я стаю на другім паверсе (бабчыным), там, дзе ў яе была кухня. Тут гатаванне ў поўным разгары. Асобных страў я не бачу, але ведаю, што нехта падрыхтоўвае розныя стравы.

Былая бабчына кухня адгароджана прыгожай драўлянай балюстрадай ад рэшты кватэры. Я падыходжу да яе і бачу, што далей нічога няма, а гэтая кухня — гэта быццам балкон, з якога відаць увесь першы паверх, які займалі калісь іншыя людзі.

А там?! Гэта ўжо ніякая не кватэра. Там зроблены рэстаран. А кажу табе, усё выглядае так маляўніча.

Рэстаран быццам бы яшчэ з перадваенных часоў, ну, з міжваеннага перыяду. Людзі, якія там сядзяць, апрануты па тадышняй модзе, снуюцца па зале афіцыянты з вялізнымі вусамі, якія насілі ў тыя часы ў абавязковым парадку.

Уся атмасфера, як са старога фільма. Але ўпрыгожанняў там ніякіх не было, стаяла даволі многа сталоў, накрытых белымі абрусамі.

Бабулі сваёй я там не бачыла, але ведала, што яна тут ёсць. Чаго мне чакаць, скажы, Астроне?!

**Яніна**

Даражэнькая Янінка! Памятаю я, стары, памятаю яшчэ тыя рэстараны з міжваеннага часу. Забяжыць чалавек у такую забягалаўку, падсілкуецца селядцом з цыбуляй, чвэртку пры гэтым махнуўшы. І ўжо добра было.

Я думаю, мілая мая, што ты наглядзелася розных фільмаў даваенных, вось і сніцца табе нешта такое па начах. Зрэшты, многае да нас з тых часоў цяпер вяртаецца. Але мяркую, што сон гэты прысніўся табе на добрае. А то з прычыны таго, што тут лунаў дух тваёй бабулі-нябожчыцы.

**Астрон**

# Сказаў праўду

Шматгадовы ніўскі карэспандэнт і пісьманосец з Дубіч-Царкоўных Мікалай Панфілюк („Ніва" н-р 3 ад 17 студзеня 1999 года) сказаў праўду, што многія людзі купляюць „Ніву" толькі раз у год — дзеля календара.

Добра помню тое, калі пісьманосец прыходзіў у хату з поўнай сумкай газет. Былы пісьманосец з Трасцянкі Уладзімір Андраюк расказваў, як калісь яны змагаліся за падпіску „Нівы", каб апынуцца ў першай дзесятцы выдатнікаў ды атрымаць узнагароду.

Мне здаецца, што людзі адвярнуліся ад газет не па прычыне беднасці, а з-за тэлебачання, якое забрала ў людзей вольны час.

Цяпер пісьманосец носіць у сваёй сумцы мыла, пральныя парашкі, папяросы, шампуні, а калі жанчына закажа то і трусікі прынясе, толькі падай размер. А калі заказчыца маладая, то пісьманосец нават і прымерыць можа. Аднак на вёсках вельмі мала маладых жанчын засталося, амаль усе паўцякалі ў гарады.

Мой пісьманосец ведае, што абавязкова мне трэба выпісаць „Ніву", і нават калі забуду, зробіць ён падпіску без мяне, бо ведае, што аддам яму грошы.

Мне хацелася б, каб людзі не куплялі толькі „Ніву" з календаром, а выпісвалі яе ў пісьманосца круглы год.

**Мікалай Лук'янюк**

# Дубы — помнікі прыроды

Стройныя вяковыя дубы-волаты можна сустрэць у лясах Белавежскай пушчы на тэрыторыі Нараўчанскай гміны. Чародка прыгожых дубоў вабіць вока ў Свінароях, каля Капіташчыны, Крыніцы і Альхоўкі, ля чыгункі на шляху Пераходы — Гнілец.

Асабліва прыгожыя дубы-помнікі прыроды знаходзяцца ва ўрочышчы Вілы, там дзе прытокі Брашча ды Гвозьна ўліваюцца ў раку Нараўку, ды на беразе Гвозьнай у яе ніжнім цячэнні.

Прыгожае дрэва з гэтага шляхетнага гатунку ліставых можна ўбачыць ля самай дарогі каля чыгуначнага вакзала ў Плянце. Некалькі дубоў красуецца побач павароту асфальтаванай дарогі з Новага Ляўкова ў Плянту.

**(гай)**



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 lutego 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мал. Алега* КАРПОВІЧА

## Пачастунак

На стале стаіць бутэлька,
Пры бутэльцы — *чашкі.*
Сядзяць Колі, сядзяць Мішы,
Сядзяць дзядзькі Сашкі.

Цяпер мова не *кляйцца*,
Як няма гарэлкі.
Трэба так ужо напіцца
Каб быў розум мелкі.

Адключаюцца галоўкі,
Язык сам гаворыць;
Тады кожны бойкі, лоўкі,
Па калені мора.

І на Бога ўжо дарога
І на кожнага з іх „маць".
Пасядзеўшы там нямнога
Ад іх можна ўсё спазнаць.

Ляцяць „маты" як з гарматы
Сыплюцца ўжо „куры";
Кожны мае эпітэт
Быццам скончыў факультэт.

Яны тады быццам клоўны —
Насы сінія і *поўны*;
Напіліся ўжо даволі,
Быццам век былі ў няволі.

Так па чарачцы, у роцік,
Запаўняецца жывоцік.
Робяць танцы, ходзяць кругам
І змагае іх *нядуга.*

А калі ўжо канец „лічніка",
Яны, быццам у кастрычніку,
Пачынаюць даспяваць —
На зямельку ападаць.

**Ніна** МІНЬКО

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. белаватая пляма на рагавой абалонцы вока, 7. дачка Агамемнона, 8. парушэнне вернасці, 9. паходная пляшка, 10. архітэктурны стыль 18 ст., 14. мусульманскі ўладар, 18. вышэйшае флоцкае воінскае званне, 19. порт у В'етнаме, 20. старажытнагрэчаскі географ (65 да н.э.—20 н.э.), 21. рака ў Кот-д'Івуар.

**Вертыкальна:** 1. пасудзіна для захоўвання тэмпературы, 2. Джон, англійскі фізік і філасаф (1901—71), 3. гатунак вытрыманай моцнай гарэлкі, 4. рынак, 5. аўтар лірычных літаратурных твораў, 6. урач, 11. японскі горад на поўначы Хонсю, 12. арганізмы, якім неабходны кісларод (мн. лік), 13. вялікі горад у Новай Зеландыі, 15. летні тып жылля ў якутаў, 16. тонкая шаўковая тканіна, 17. горад між Страсбурам і Парыжам.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 52 нумара**

**Гарызантальна:** Сакрат, Каганец, Яновіч, Дунцзян, апарат, рэктар, аўсянка, анатам, Абукума, Осбарн.

**Вертыкальна:** Шкодэр, аганёк, Гнезна, сцяна, крона, агіда, пастух, Рангун, Тракай, этнас, „Татра", раман.

Рашэнне: **Масей Сяднёў.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## Наперш — ідэал

Ідэалам Аўласа Падляскага ёсць Лілей Наперш. Ён як Лілюсь Сябрук супрацоўнічаў з часопісам „Зоры ў дазоры" яшчэ з маладецтва, гэта значыць, з часу для Аўласа зусім дагістарычнага. Паколькі з тае ўзроставае катэгорыі Лілюсю Напершу ці не далі ўзняцца варожыя сілы, ці так яму выгадна было, заўважыў ён, што такая пастава навучае выжываць. Лілюсь навучыўся выжываць. Так перажыў усе рэвалюцыі і завірухі, не скідаючы з мілавіднага твару сваёй прыватна-службовай усмешкі, якую некаторыя няслушна і злосна называюць ухмылкай; не распрастоўваючы свайго пухлага цельца абцягнутага ўсё дзіцячым нявінным тлушчыкам. Усе памятаюць, дарэчы, Лілюся з таго дагістарычнага часу (не ўсе яго сёння распазналі б так хутка), бо, ашчадны аж да шчымлівасці, эканоміць на новых здымках, — паказвае твары, якія час ад часу памяшчае ў сваіх зборах твораў. Гэта ўсё адбіткі аднаго негатыва, які, вядома, не змяніўся ад трыццаці пяці гадоў. І карысна, бачыце, і хараша, і эстэтычна...

Перажыў Лілей Наперш свае і выжыў. Выжыў таксама пару дзівакоўпаперадаў, якія перш-наперш яму былі націснулі, выпадкам ці не, на пятку (кажа сам, што следам за ім захутка ішлі, але то мо ён сам плёўся ў авангардзе?). Але не агрызаўся Лілей Наперш, лагодны і мілы, рабіў гэта за яго іншыя, нават часам балюча, ды добра, што зубы ў іх парадзелі, вышчарбіліся на больш істотных *дзелах*. Туды-сюды тады кінуўся Лілюсь, сёе-тое спрабаваў, а тут ужо і пенсія. І бачны ўсім мілы наш Лілюсь, і зусім непрыкметны. Так і добра. Выпрацаваць трэба ж было на працягу жыцця такі прыём, каб быць... Жыць нецікава не пішучы, і збіраецца цяпер спадар Лілей Наперш надрукаваць свае ўспаміны-падручнік выжывання. Спонсара напэўна знойдзе, бо пакінуў у памяці знаёмых і незнаёмых трывалы, хоць невялікі след... Гэта трэба ўмець — не зусім цябе бачаць, а ты сваё робіш, спакойненька. Аж да самае пенсіі, а нават і пасля.

Аўлас Падляскі, пастаццю заўважна мажнейшы ўвысь, зразумела, што больш прыкметны чым таварыш Лілей, а марыць, каб не бачылі і яго, як робіць сваю крацінную маленькую работу, звязвае гняздзечка ды клеіць яго з пёрак і дроцікаў, гліны і сліны, — тут дапасаваць, тут надцаць, там ушчыкнуць; там пад вераб'ці паўліна падзейнічаць, там пад бусліны аб'ём і высь ды паднебны клёкат... А і арлом зашыпець час ад часу, засвіргатаць ластавачкай паэтычнай...

Набегаецца Аўлас, натупаецца з фотаапаратам цяжэзным, а і так не такі здымак зробіць нашай рэчаіснасці, як Лілюсь. А Наперш здымаў яе найлепш у свой час ва ўсім ваяводстве, абы-якім апарацікам. Асабліва ўдаваліся яму расліны і краявід, звычайныя, здавалася б, такія тутэйшыя і някідкія, але ж неабходныя. Бо сам Наперш патрэбны і карысны. Цячэ калюжынкай, шуміць мураўкай. Ціўкае як шпак, які ўдасць і бусла, і вераб'я, і замяўкаць умее, калі ёсць патрэба, і замычэць. Але хто яго спамятае, шпака, з тае рабенькае чарады, хто належна ацэніць!..

**Міра** ЛУКША

Фрашкі пра нашых

## Метадалогія

Арлы ці Арловы,
Быкі ці Быковы —
Усё хрэн хваёвы.
На дровы!

Вятровічы-Сярповічы,
Піраговічы...

... ды Перніковічы —
Выдатныя пяровічы.

Тыя — „саветы".
Тыя — „узор для свету".
Рэшта — манета
Не вартая сюжэту.

**Вандал** АРЛЯНСКІ

## Кароткі курс параноі

**Палякі па выбару**

Было ў лістападзе 1998 года. На тэлеэкране маладыя семінарысты. У чорным, на шыі белыя каўнерыкі *(koloratki)*, у сэрцы жоўць. Утуліліся ў варшаўскія крэслы, узіраюцца з цікавасцю ў нашы твары і вандруюць у часе.

— Адкуль прыехалі?
— З Беларусі.
— Беларусы?
— *Polaki.*

Нарадзілі і выгадавалі іх бацькі — беларусы. У хаце гаварылі ўсе толькі па-беларуску. Так было заўсёды: продкі таіліся, нават перад сваімі дзяцьмі скрывалі тайну. Як ведаеце, у нас за адно польскае слова пагражала Сібір. Таму большасць тамашніх палякаў не мае польскага духу. Выдухнуліся!

І стаўся цуд. Прыехаў з Польшчы ксёндз і вярнуў маладзёнаў на правільны шлях.

— *Wpoiw duch polski (першы).*
І маладзён *opamientałsie.*
— *I ja apamientawsia (другі). Przyjechaw da Macierzy...*

Як казаў з гэтага ж блакітнага акенца незабыўны Станіслаў Станіслававіч — *określitsia.*

*Brawo! Punkt widzenia zależy od punktu siedzenia (рэха).*

А можа наадварот?

......

Фокус-марокус. З неба Касцюшка ўзіраецца ў нашы твары. Афішуючы пакутлівую грымасу, змоўніцкі моргае:

— Жыве Беларусь!

......

Беларускі апакаліпсіс: дыяспара — захавальнікам нацыянальнага генафонду *(Быкаў).*

Стаім на стражы!

**Сідар** МАКАЦЁР
*(Всегда, всегда!)*

**Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:**

### По катэхізісу Бэлзы

— Хто ты гэткі?
— Свой. Тутэйшы.
— Твае продкі?
— Усе памершы.
— Бацька? Маці?
— Сірата.
— Прафесія?
— Басата.
— Лясун, мусіць?
— Я з палёў.
— Палюхом запішам — як?
— Я з палёў, значыць — паляк!